# РЭХА З ЧАРОМХІ

## ЗАБЫТАЯ ПАЛЯНА

Неўпрыкмет і нечакана
Цераз лес па коннай сцежцы
На знаёмую паляну
Трапіў я па перабежцы.
Сонца яркае мне вочы
Асляпіла, як рэфлектар,
Голас я пачуў жаночы,
Як салодкі боскі нектар.
Твар прыгожы, незнаёмы
Я пабачыў на паляне,
Я прысеў пры ёй ад стомы
На траве, як на дыване.
Ад усмешкі, цёплай, мілай
І прыемнай, і чароўнай
Радасць я пачуў і сілу.
Стома адышла раптоўна.
Глянуў на яе паўторна,
Погляд выдаўся вядомым,
Па вачах, па бровах чорных
Я прыпомніў твар знаёмы.
Я пазнаў тады дзяўчыну,
Як калісь тут на паляне
Мы праводзілі хвіліны
У зялёным акіяне.
І з раскошай, і з усмешкай
Зноў упалі мы ў аблымкі,
Гушчары і ў лесе сцежкі
Нам з травой рабілі здымкі.

**КУЗНЯ**

Помню на пачатку нашай вёскі,
Ля дарогі з Беластока ў Брэст,
Чуць было ад кузні адгалоскі,
Нават у нядзелю, рэдка ў фэст.
    Цэлы дзень гарэў у кузні горан,
    Дулі ў паддувала два мяхі,
    Да вазоў каваль каваў рысоры,
    Чуўся стук ад молата глухі.
Вілы ён рабіў з прутоў сталёвых,
І на шост нацягваў бусакі,
Коням прыбіваў да ног падковы,
У капыта забіваў цвікі.
    Лямяшы каваў каваль да плугаў,
    Каб драўляных сох ў нас не было,
    То была яго ў той час заслуга,
    І за працу дзякавала ўсё сяло.
Для жадаючых кляпаў ён косы,
Перацягваў колы на вазы,
Аддаваў гатовыя калёсы,
Шыны набіваў на палазы.
    Кавалём тады быў пан Нядзьведскі,
    Працаваў ён там аж да вайны,
    Ды замоўкла кузня ў час савецкі,
    Бо яму гразілі кайданы.
А цяпер па ёй няма і следу,
Можа вырас там даўно палын,
Бо каваль памёр, яго злыбеды
Хай прыпомніць тут мой успамін.

## ЧАРОМХІ

Прыгожая чаромха з цёмнаю карой,
Расце паблізу ўзлессяў, побач ручаёў,
З бліскучаю лістотай зялёна-залатой,
Бялее ў маі ўся між кветкавых раёў,
Духмянаю вуаллю кліча ос і пчол,
Гудзяць яны над ёю, чуючы нектар,
І матылькоў атрады лётаюць наўкол,
Яны шукаюць мёду, быццам медавар.
Запыляць пчолы кветкі, вырастуць плады.
Іх чорныя касцянкі салодкі маюць смак,
Таму шукаюць іх сініцы і дразды,
Збірае, як лякарства,часта іх бядняк.
Чаромхаю назвалі і маё сяло,
Я помню больш чым сотню ў ёй калісь сядзіб,
У іх  паўтысячы сялян тады жыло.
За клунямі быў луг, а ў лузе многа рыб.
Ля вуліцы шырокай з дзвюх яе старон
Драўляныя дамы стаялі ў два рады,
На вуліцу ўсе шыбы ззялі  ад акон,
Вясной цвілі ля хат гароды і сады..
На ўсходзе ад сяла чыгунку правялі,
Чаромхаю назвалі станцыю, вакзал,
Па рэйках у Варшаву цягнікі пайшлі,
Яны штодзень бягуць, іх не пужае шквал.
Хоць войны нанязлі Чаромхам многа ран,
Разбурылі вакзал, спалілі ўсё сяло,
Чаромхі мелі дзесьці нейкі талісман,
Як фенікс, з попелу жыццё ў іх аджыло.

**СОН**

Мне сёння прыснілася вёска,
Такую, як бачыў калісці,
Драўляны дом, побач бярозка,
На белай бярозе шум лісця.
    Пры доме хлявы без жывёлы,
    Каровы хадзілі па лузе,
    На прызбе сядзеў кот вясёлы,
    Пры клуні стаяў конь пры плузе.
Навокал драўляныя хаты,
На іх усе дахі з саломы
І толькі адзін дом багаты
Дах яркі меў, як на хароме.
    Між хат брукаванай дарогай
    Шумелі драўляныя колы,
    Там бегаў з вялікай трывогай
    Сабака галодны і кволы.
Гліняная ў хаце падлога
Чарнела ў святле ад лучыны,
А з дошак барлог быў убогі,
Сяннік пах здалёк канюшынай.
    Малое акно, як шчыліна,
    Кідала святло з панадворка
    На стол у куточку, адзіны,
    З іконай са свечкай, як зорка.
Такая вось вёска з дзяцінства
Прыснілася сёння мне ноччу,
І маткі маёй мацерынства
Зірнула мне ў сне ў мае вочы.

## ЛЁС БАЦЬКІ

Мой бацька на многіх чыгунках
Правёў маладыя гады,
Глядзеў, каб у розных кірунках
Ішлі цягнікі ў гарады.
Ён азбуку Морзэ знаў добра,
Звінеў кожны дзень тэлеграф,
Ён бачыў у сне яго вобраз,
Калі спаць прыйшла ўжо пара.
Баяўся, каб дзесь катастрофы
На рэйках яго не было,
Прымаў тэлеграфныя строфы,
Сачыў светлавое табло.
У бежанстве трапіў далёка,
На поўнач, за Санкт-Пецярбург,
На станцыю з лесам навокал,
Куды не заглядваў хірург.
Начальнікам станцыі ў пушчы
І кухарам быў заадно,
Палярнае ззянне і гушча
Яму заглядалі ў акно.
Вось там у ваенных умовах
Пражыў ён чатыры гады,
Дамоў ён вярнуўся здаровы,
Калі быў яшчэ малады.
Ды працы ўжо новыя ўлады
Такой, як ён меў, не далі,
Бо для беларусаў спагады
Яны ўжо не мелі калісь.

## МОЙ КОНЬ

Я ўспамінаю часта вёску,
Наш дом і чорнага каня,
Як з ім араў зямлі палоскі,
Як грыву гладзіў пяцярнёй.
Як ехаў з ім вярхом на пашу,
Галопам часта праз сяло,
Як пас яго на лузе нашым,
Як закладаў яму сядло.
Як ездзіў часта ў лес з ім возам,
Там накладаў у фуру дроў,
Як ён на санках у марозы
Вазіў мяне да сваякоў.
Не раз з ім ноч правёў на лузе,
Ён спутаны там грыз траву
Я ля кастра ў рабочай блузе
Драмаў, змрок бачыў наяву.
З ім развітаўся на вакзале,
Як ехаў я на чужыну,
Як вораг у ваенным шквале
Мяне ў няволю пацягнуў.
Яго пагладзіўшы па грыве,
Сказаў яму: мяне чакай!
І адышоў па дырэктыве,
Якую даў тады гультай.
З ім не сустрэўся я ніколі,
Яго забралі на вайну.
Калі вярнуўся я з няволі
Яго мог толькі ўспамянуць.

**ДУРНЫ ВАЛОДЗЯ**

Жыў у сяле ,,дурны Валодзя",
Так празывалі ўсе яго,
Жыў ён з сястрою ў агародзе
З кульгавай леваю нагой.
    Хадзіў ён сумны і маўклівы,
    Не раз з сякераю ў руках,
    Абрэзваў часта коням грывы,
    Сустрэўшы іх дзесь на лугах.
Ён чуў сябе ў сястры слугою,
Карміў кароў, араў, касіў,
А ў дождж, прыкрыты дзяругою,
Лавіў у ставе карасі.
    Ён ягады збіраў у лесе,
    Прыносіў цэлую кішэнь,
    Яго сястра ўвесь час у стрэсе
    Сварылася з ім кожны дзень.
Ды ён маўчаў, яе не слухаў,
І на яе глядзеў, як воўк,
Ён нават ноччу ў завіруху
Ішоў на могілкі знарок.
    Ён браў з сабой тады сякеру,
    Там нішчыў помнікі, крыжы,
    Пасля ў хляве разбіў ёй дзверы,
    Бо чуўся ў хаце, як чужы.
Стаў страшыць ён сястру пажарам,
Запалкі выняў, партсігар.
Паклікала яна жандара,
Застрэліў там яго жандар.

**ЗАБЫТЫЯ ГАДЫ**

Амаль няма людзей, каб памяталі
Эпоху бежанства, вайны гады,
Як нашы продкі вёскі пакідалі,
Ішлі на ўсход, не знаючы куды.
Як гінулі яны дзесь па дарозе,
Як на чужыне голад мучыў іх,
Вярнуўшыся, сустрэлі на парозе
Сваіх дамоў людзей зусім чужых.
Прыехалі ў другую ўжо дзяржаву,
Чужую мову чулі ад улад,
Улада не любіла іх, а нават
Іх пераследаваць стаў новы ўрад.
Не дбаў урад тады аб іх здароўі,
Іх мову родную вучыць забараняў,
Ім працы не даваў, бо беспрацоўе
Душыла ўсіх навокал, як удаў.
І тыя сумныя для нас падзеі
Прыпомніць нам старэйшы чалавек,
Які жыве і многа юбілеяў
Ён паражыў у свой фатальны век.
Ён працярпеў пасля вайну другую,
Няволю, акупацыю і тромб,
Мог страціць ён асобу дарагую,
Дачку ці сына ад снарадаў, бомб.
Сацыялізм мог памагчы ў кар’еры,
А мог яго зняволіць у турме ...
Штогод іх менш адкрыць умее дзверы
І з дзён пражытых выдаць рэзюме.

**СНАПЫ**

Я глядзеў, як калісьці сярпы
Жалі спелае збожжа на полі,
Як за імі вязалі снапы,
Як у тузін складалі паволі.
Накладалі снапы  на вазы
І да клуняў цягнулі вазамі,
Як зімою прыйшлі маразы
Малацілі ўвесь час іх цапамі.
На гліняны ток клалі снапы,
Каб глядзелі на цэп каласамі,
Па іх цэлы дзень білі  цапы
Аж пішчала калоссе вусамі.
Выбівалі ўсё зерне з мукой
І яно танцавала ў паветры,
Патым шуфляю спраўнай рукой
Адсявалі палову на ветры.
За адзін дзень капу тых снапоў
Змалаціць мог здаровы мужчына,
Гукі ўдараў у клунях цапоў,
Чуць было, быццам стукат машыны.
Дзень у дзень стукаталі цапы,
Праз зіму мелі людзі пацеху,
А з саломы вязалі снапы,
Той саломаю крылі ў нас стрэхі.
Сёння ў поле прыедзе камбайн,
Ён сажне і змалоціць вам збожжа,
І зімой селянін, як цыган,
Можа бавіцца з жонкай прыгожай.

## ТАПОЛІ

Я помню вёску родную сваю,
Яна мне часта сніцца мімаволі,
Стаялі хаты шэрыя ў страі,
Пры іх раслі высокія тапалі.
Раслі яны ўздоўж цэлага сяла
І з дзвюх старон  ля вуліцы-дарогі,
Між імі ліпа ў ліпені цвіла
І  вяз-таўстун стары, высокі, строгі.
Кідалі летам цені на дамы
Таполі ўсе густой сваёй лістотай,
І часам білі з хмар у іх грамы,
А лівень запаўняў равы балотам.
Было ў лістоце не адно гняздо,
Хаваліся ў іх чорныя вароны,
І з лесу клікалі яны драздоў,
Галосна каркалі, як мегафоны.
Ім памагалі ў чэрвені драчы.
Пакуль не асушылі ў нас Балота,
Спаць не давалі  нам яны ўначы
З грачамі разам нават у спякоту.
Спаліла вёску грозная вайна,
Згарэлі з хатамі пры іх таполі,
І вішня выраслі мне ля акна,
Бо дом мой вораг не спаліў ніколі.
Астаўся вяз, ў якога я дупле,
Калісь хаваўся з дзецьмі ў час забавы.
Тополяў сотня згінула ў сяле,
Спаліў іх вораг у баі крывавым.

**КАНЬКІ**

Даўно ў дзіцячыя гады
На лёд я бегаў нацянькі,
Туды з сабою нёс заўжды
Мае драўляныя канькі.
Я сам іх выстругаў з палена
Нажамі на сваіх каленях.
    На іх набіў я тоўсты дрот,
    Прымацаваў пасля шнуркі,
    Да іх прывязваў кожны бот
    І то былі мае канькі.
    На іх катаўся я па лёдзе,
    Як моцны вецер на свабодзе.
За пунямі вялікі луг
Тады пакрыты быў вадой,
Як замярзаў блішчэў, як Буг,
Па ім мы ездзілі гурбой.
І на каньках, і толькі ў ботах.
Луг называецца Балота.
    На тых каньках я многа раз
    Набіў на целе сінякі,
    Аж бацька мне, як на заказ,
    Купіў сталёвыя канькі.
    Зайздросцілі мне доўга дзеці,
    Што сталь мне пад нагамі свеціць.
Луг быў асушаны зусім,
І на Балоце згінуў лёд,
Трава пасля расла на ім.
І аб каньках забыў народ,
Ржавелі ў сетцы з павуціны,
Аб іх засталіся ўспаміны.

**ПАКОСЫ СЕНА**

Прыпамінаю ў чэрвеньскія ранкі,
Калі на ўсходзе сонца ўжо ўзышло,
Кляпанне кос гучала ад світанку,
Звон сталі ў нас будзіў усё сяло.
    Касцы вастрылі раніцаю косы,
    Пасля ішлі на луг касіць траву,
    Шумелі пад іх косамі пакосы,
    Траву змянялі ў сена наяву.
Выносіў я з бацькамі з дрыгвы сена,
Сваймі плячыма на сухі грудок,
Ступаў у дрыгве жоўтай да калена,
Яна шыпела, як рабіў я крок.
    А сонца грэла, пот сцякаў мне з твару,
    А сена сохла хутка на грудку,
    Мой твар рабіўся цёмны ад загару,
    І я шукаў пад дрэвам халадку.
Сухое сена клалі ў воз глыбокі.
Конь вёз яго пад клуню на гумно,
Яго складалі аж пад дах высокі
Дзесь за драўлянаю яе сцяной.
    Зімой кармілі сенам тым каровы
    І нават еў яго галодны конь,
    Чакалі ўсе аж пройдзе час зімовы,
    Калі закончыць цэп трымаць далонь.
Цяпер асушаныя ўсе балоты,
Касілкі косяць хутка кожны луг,
Машыны ў клуню возяць за вароты
Сухое сена без каня, без пуг.

**Я АДТУЛЬ**

Я адтуль, дзе стаялі драўляныя хаты,
А на кожнай быў дах з саламянай страхой,
Дзе выходзіў на поле вясною араты
З хударлявым канякам, з драўлянай сахой.
Я адтуль, дзе ў хацінах на месцы падлогі
Быў паложаны з гліны патрэсканы ток,
Дзе ў кутку замест ложка сяннік быў убогі,
Дзе лучыну ці свечку запальвалі ў змрок.
Я адтуль, дзе за клуняй глядзеў на Балота,
А ў ім плавалі рыбы, уюны, карасі,
Дзе не бачыла ў вёсцы ніколі бядното,
Як у горадзе ездзяць трамваі, таксі.
Я адтуль, дзе сяляне хадзілі ўсё лета
Па палях, па іржышчах заўжды басанож,
Дзе пастух пас жывёлу ў лахманы адзеты
На далёкім дзесь лузе і ў буру, і ў дождж.
Я адтуль, дзе ў царкву пры шашы і пры лесе
Прыязджалі сяляне на фэсты заўжды,
Паміналі на могілках там тады ў стрэсе
Пахаваных нядаўна сяброў маладых.
Я адтуль, дзе праходзіла лінія фронту
І згарэла амаль цэла вёска ў вайну,
Дзе пажар палыхаў па ўсяму гарызонту,
Кожны бачыў здалёк агнявую сцяну.
Я адтуль, дзе хадзілі не раз янычары
Выганялі людзей, каб дзесь ехалі ў рай,
І гразілі, што ноччу іх знішчаць пажары,
Што на месца іх прыйдзе ўжо іншы ратай.

**ЛЁС ДЗЯЎЧЫНЫ**

Помню сінявокую дзяўчыну,
Стройную, прыгожую ў сяле,
Вусны, як чырвоныя рубіны,
Ззялі, як сядзела пры стале.
    Называлі мы яе фіялкай.
    Мяккі позірк у яе, як шоўк,
    З ценем броў, такім як у русалкі,
    Выглядаў, як кветка-васілёк.
Чаравалі: твар, яе усмешка
І ружовы колер пекных шчок.
Вуснаў спакуслівая мярэжка,
Гібкая фігура, кожны крок.
    Сустакаўся я з ёй, як з сяброўкай,
    Бачыў, як іголкай у руках,
    Вышывала ў хаце вельмі лоўка
    Кветкі на абрусах, ручніках.
Потым у далёкую няволю
Грозны вораг зацягнуў мяне,
Гора там спаткаў тады я ўволю,
І нягоды цяжкія ў вайне.
    І яе забраў таксама вораг,
    На чужыну вывез у бярлог,
    І загінула, як куля ў моры,
    Аб ёй вестка між чужых дарог.
Па зарослых сцежках злой нягоды
Лёс аднак дамоў прывёў мяне,
А яна прапала назаўсёды
На чужой далёкай цаліне.

# ЦУДЫ ПРЫРОДЫ

## КРОКІ ВЯСНЫ

Круглы дыск сонца ўзляцеў яркім птахам ,
Промні яго хутка топяць снег белы,
Бісеры слёз паплылі шпарка з дахаў,
Свецяць на шыбах, звіняць, як капелы.
Белыя плямы знікаюць ля дома,
Золата з неба на лужынах ззяе,
З дахаў з-пад снегу жаўцее салома,
Цешыцца сонцам і полем, і гаем.
Дрэвы таксама без белай вуалі
Сушаць галіны ў гарачых праменнях,
А на рабінах вісяць, як каралі,
Ярка чырвоныя ягады ў ценю.
Чыстае неба, ды дзе-нідзе часам
Срэбныя хмаркі плывуць адзінока,
І спаглядаюць, як снег на тэрасах
Зменены ў воду плыве ўжо патокам.
З саду вада ўніз плыве ручайкамі,
Булькае гучна, ўпадае ў канаву,
Трэскае лёд на лугах пад нагамі,
Нельга ісці на каток на забаву.
Птушкі шчабечуць вясёла навокал,
Радуе іх і цяпло, і пагода,
Снег зямятаюць хвастамі сарокі,
Скачуць і каркаюць для асалоды.
Людзі вітаюцца песняй з вясною,
Холад абрыд ім і пух снежнай белі,
Цешыць іх час развітання з зімою.
Людзі чакаюць вясны, як нядзелі.

**СТРЫЖЫ**

Я думаў – ластаўкі гурбою
Вось прыляцелі з-за мяжы,
А тут ляцелі нада мною
З вялікай хуткасцю стрыжы.
Даўно аставіўшы свой вырай,
Пачатку лета звестуны,
З’явіліся, як камандзіры,
Плывуць, як рэчкаю ўюны.
Раскінуўшы шырока крылы,
Ляцяць, як цёмныя крыжы,
А ў хмары дыме, як з кадзіла,
Бліскаюць, як вуглі, стрыжы.
Заложаць хутка гнёзды ў ямках,
У сценах гарадскіх дамоў,
Сядзець на яйках буде самка,
Чакаць маленечкіх стрыжоў.
Малых навучаць пілатажу,
Лятаць пад хмары ў вышыню,
Як віражы рабіць пакажуць,
Каб мух натрапіць гушчыню.
А потым зноў збяруцца разам,
Каб дзесь у вырай паляцець,
У Афрыцы знайдуць аазу,
Каб ад жары там не самлець.
Цяпер яны, як самалёты,
Лятаюць, робяць віражы,
Не чуюць страху, ні турботы.
Пад небам бавяцца стрыжы.

**ДОЖДЖ ЗНІЧАК**

Пад зорным нябесным аблiччам
Па полi iду баразною,
І ў небе раптоўна дождж знiчак,
Заззяў над маёй галавою.
Здавалася, ходзiць па небе
Сявец i рукой сыпле зоркi,
І падаюць сотняй над глебай,
Наўкол залатыя iголкi.
Мiж імi, як факелы часам,
Шугнуць залатыя балiды.
І згаснуць яны самапасам,
Асвецяць на мiг краявiды.
Згары самацветы ўсiх зорак
Яснеюць ад блiскання знiчак,
Пад iмi паветра, як мора,
Хапае i гасiць здабычу.
Іх палiць высока паветра,
Змяняе ў агнiстую стужку,
А пырскi раскiдвае ветрам,
Як iскраў блiскучыя мушкi.
Я цешуся яснаю ноччу
Чароўнымi стужкамi свету,
Як блiскае з неба мне ў вочы
Рой iскраў з бяздоння сусвету.
У космасе доўга блукалi
Асколкi далёкай планеты,
Як нашу Зямлю напаткалi,
У знiчкi змянiлiся летам.

**ГЛЕБА**

Іду ўздоўж польнай сцежкай, ззяе сонца ў небе,
Халодны ветрык лашчыць мне мой мокры твар,
Смяецца да мяне завораная глеба,
Каменьчык ярка зажаўцее, як янтар.
Не злуецца яна, што плуг яе парэзаў,
Што моцна пакалолі зубы бараны,
І што па ёй хадзіў якісь сявец-гарэза,
Зярняты сыпаў ёй, меў ногі, як кліны.
І корміць у сабе рассыпанаыя зерні,
Каб парасткі пусцілі і раслі ўгару,
Яна паможа нават вырасці з ёй церні,
Напоіць вільгаццю ў гарачую пару.
І на яе палетках зашуміць калоссе,
Пшаніцы і ячменю, жыта  і аўса,
І будзе слухаць розных птушак  шматгалоссе,
А потым зноў пачуе, як звініць каса.
Пужаць яе не будзе нават гук камбайна,
Ці траскатня навокал не адной жняі,
Прывыкла, што машыны  бегаюць звычайна,
На полі астаўляюць многа каляін.
Трымае часта глеба зерні цэраз зіму,
Хавае, каб не знішчыў іх мароз зімой,
Пад снегам праляжаць яны, як пад кілімам,
Цяпло абудзіць зноў іх да жыцця вясной.
Карміліцай ёсць глеба для раслін, стварэнняў,
Карміліцай  была і будзе для людзей,
Дае яна ўсім  людзям ежу і адзенне,
Як атрыбут жыцця, як дзіўны чарадзей.

## УСЁ МАЕ СВОЙ ПАЧАТАК

У сусвеце нашым мае свой пачатак
Кожнае здарэнне, кожнае жыццё,
Створаны адвечна быў такі парадак:
Мусіць мець пачатак кожнае быццё.
Кожныя расліны родзяцца з зярнятак
І каб не загінулі яны пасля,
Як растуць, то родзяць зерні напачатак,
Ветры іх раскінуць па лугах, палях.
З мулу вырастаюць вольхі, вербалозы,
На пяску ўгару расце сасновы лес,
З жолудоў дубы, а з семені бярозы,
Нават нарадзіўся грэцкі Геркулес.
Быў калісь пачатак нашага сусвету,
Быццам бы мільярды год таму назад,
То ,,Вялікі выбух”, зоркі і планеты
Сыпнуў у прастору, быццам з хмары град.
Наш гарачы шар Зямлі сцягнула Сонца,
Разам мы папалі зноў у Млечны Шлях,
І Зямля астыла, ззяючы чырвонцам,
Акружала Сонца, як чырвоны птах.
На Зямлі паўсталі воды, суша, горы,
У салёных водах плаваць стаў бялок,
А пасля ўжо рыбы цешыліся ў моры,
І жыццё на сушу свой зрабіла крок.
Дыназаўры потым шнарылі па свеце,
І нядаўна з лесу выйшаў чалавек,
І яго ракеты блудзяць па сусвеце,
Ён з Зямлі не хоча адляцець навек.

**ЦУДЫ**

Калісь цуд здарыўся ў сусвеце,
Як боскай думкі адкрыццё,
Што ў Млечным Шляху на планеце
З’явілася ў вадзе жыццё.
І што яго ў прыродных эрах
Ніхто не знішчыў на Зямлі,
Што розныя расліны, зверы
На ёй узніклі і жылі.
Што эвалюцыя ў прыродзе
Да дасканаласці вяла,
Ад катаклізмаў у пагодзе,
Жыццё заўсёды берагла.
Расліны, розныя істоты
Жывуць у тундры і ў тайзе,
Пустыні знаюць і балоты,
Дно акіянаў у вадзе.
Цуд стаў, што між стварэнняў свету,
Настаў такі ў прыродзе век,
Што нашу ўзбагаціў планету
Калісь разумны чалавек.
Стварыў ён новыя дзяржавы,
Стварыў ён вёскі, гарады,
Ды многа войнаў злых, крывавых,
Ракеты, ў космасе сляды.
І цуд, што ў дзвюх сусветных войнах
Не згінуў ён ад куль і бомб,
Што ён жыве ў канфліктах збройных,
Хоць памагае смерці тромб.

## ПАСЛЯ ЛІЎНЯ

Лівень раптоўна, як цунамі,
Прабег праз некалькі хвілін,
І ўжо рой птушак над дамамі
Шчабеча шумна між галін.
    Заззяла сонца ў небе ружай
    Блішчыць ад ліўня кожны дах,
    Вясёлкі радуюцца ў лужах,
    Іскрацца кветкі на лугах.
Праменні капаюць бясконца
З галін, з лістоты розных дрэў,
Іх кроплі, як каралі ў сонцы,
Ці, як бурштынавы пасеў.
    Выходжу на паветра з дома
    Іду ў лес, ветрык вее ў твар,
    Акацыя не чуе стомы,
    Глядзіць з раскошай на бульвар.
Плыве малымі ручаямі
Вада паблізу па траве,
Фантаны скачуць пад нагамі
На чыстай мокрай мураве.
    Навокал чыстае паветра,
    Бо лівень змыў і дым, і пыл,
    Забраў з прасторы ўсю салетру,
    Каб не ўвайшла да нашых жыл.
Далонямі хапаю ззянне,
І бляскі сонца ў вышыні
Гляджу на кветкі на паляне,
Як воду п’юць іх карані.

## КАМАРЫ Ў  МУСОН

Далёка ў Індыі ў Бакара
Я прывыкаў да камароў,
Як быў мусон, за мной іх  хмара
Пакаштаваь маю хацела кроў.
Ляцела праз усю дарогу,
Суправаджаючы мяне
Дадому, да майго парога,
Сядзела гуртам на сцяне.
Чакалі аж адкрыю дзверы,
Каб заляцець у мой пакой.
Як сквапныя малыя зверы,
Ляцелі прагна на разбой.
Я нішчыў дома іх атрутай:
Са столі падалі гурбой
Яны, як сотні парашутаў.
Пасля змятаў я іх мятлой.
Маскітныя я вешаў сеткі,
На кожным з вокан, на дзвярах,
У сетках ложак, быў, як клетка,
Бялеў у бляску ліхтара.
І некалі ўлятаў мне ў ложак
Пад сеткай бзыкаў мне камар,
Тады я нішчыў шум варожы,
Каб не душыў у сне кашмар.
Ды камары не любяць сонца,
Меў з імі клопат я ў мусон...
Я ўспамінаю іх бясконца,
Так як варожы легіён.

**ДАЖДЖЛІВЫ ЛІПЕНЬ**

Дажджлівы ліпень цэлы месяц
Жывёлу мучыць і людзей,
Балота ўсе нагамі месяць,
У ботах ходзяць па вадзе.
У нейкіх вёсках па калені
Даходзіць брудная вада,
Вадой заліты ў хатах сені,
Падвалы, яблыні ў садах.
Бо выліла рака ці рэчка
І заліла палі, дамы,
Купаецца ў балоце грэчка,
Б'юць бліскавіцы і грамы.
Зноў абарвалася ў нас хмара
І многа вуліц заліло,
Плывуць машыны па бульварах,
Патрэбнае да іх вясло.
У многіх вёсках ураганы
Пужаюць і наводзяць жах,
На клунях, хатах мураваных
Сарвалі неадзіны дах.
Гудзелі моцна, як фанфары
Грамы мне ноччу за акном,
Вада лілася рэчкай з хмары.
А шыбы бліскалі агнём.
Канчаецца ўжо заўтра ліпень,
А сёння з хмары дождж цячэ,
Пакуль не думаю аб грыпе,
Не льюцца слёзы мне з вачэй.

## АДПАЧЫНАК ПАД КЕДРАМ

Блукаю сам, адзін у горах,
А сонца ззяе і пячэ,
Шукаю ценю, мучыць змора,
Пот пад кашуляю цячэ.
    І раптам бачу ля адхона
    Расце стары, вялікі кедр,
    Халодны цень яго карона
    Кідае, быццам дэкаэд.
Спяшу с палёгкаю шчаслівы,
Што сяду ля яго ступні,
Мяне вітае цень маўклівы,
Паказвае кедр карані.
    Паблізу ў ценю бачу прорву
    Глыбокую, не відна дна,
    А залацістай яркай барвай
    Блішчыць гранітная сцяна.
Сядаючы ў халодным ценю
Уніз на прорвы дно гляджу,
Крыві пулс чую ўжо ў каленях,
Ды цешуся, што ўжо сяджу.
    Зялёны кедр глядзіць на скалы
    І сам адзін стаіць між іх,
    Іголкі граюць, як цымбалы,
    На ветры, чуць іх цяжкі ўздых.
У прорву падаюць іх шышкі,
Якія гінуць дзесь на дне,
З'ядаюць можа іх там мышкі,
Якія сходзяць па сцяне.

## ЦВЫРКУНЫ І ЦЫКАДЫ

Як жыў я ў вёсцы, пры пагодзе
Любіў я слухаць цвыркуноў,
Яны ігралі ў агародзе,
На прызбе хаты за сцяной.
Калісь адзін улез пад печку
І ноччу спаць нам не даваў,
Яго шукаў я там са свечкай,
А ён схаваўся мне ў рукаў.
Зялёны ён, дрыжэў са страху,
Як выкідаў яго на двор,
Мне выскачыў з рукі з размаху
І паляцеў, як метэор.
Любіў я слухаць іх на пашы
Калі каня я ноччу пас,
Дружыў я з імі на Падляшшы
Калісь у мой юнацкі час.
Я ў Індыі пачуў цыкады,
Як мне гудзелі пад акном,
Там я не меў ад іх спагады
Не толькі ноччу, нават днём.
Яны гудзелі ў кожным парку,
Скрыпеў у дзень там кожны куст,
Каб куст закончыў ноччу сварку,
Індус на лісце сыпаў дуст.
Яны не гралі на клавірах
Прыгожа, быццам цвыркуны,
Скрыпелі так, як колы ў жвіры,
Ці гусеніцы ў час вайны.

**КРЫЖАДЗЮБЫ**

Малыя птушкі  крыжадзюбы
Спяваюць цудна цэлы год,
У лесе чуць іх голас любы,
Гучыць, як дзіўны карагод.
Нясуцца  песні іх пад хмары,
А потым падаюць згары,
Гучыць іх музыка ў разгары,
Ім памагаюць снягіры.
Нават і ў студзені зімою,
Калі схапілі маразы,
Гучыць лес песняю жывою,
Чуць іх, дзе ездзяць палазы.
Пасля вялікай завірухі
Відаць на снезе іх сляды,
Звярок іх страшыць  віславухі
Калі шукае там  яды.
Бо крыжадзюб зімою нават
Гняздо спляце як акрабат,
Сядзіць на яйках вельмі жвава,
Выседжвае ў ім птушанят
Гняздо хавае ён ад сцюжы,
Ад ветру дзесь у гушчыні
І птушанят сваіх дасужы
Зімой пільнуе ў цішыні.
І выкарміць, знаходзіць ежу
Для птушанят і для сябе,
Не хоча ён шукаць замежжа,
Зімою, быццам верабей.

**ПУСТАЗЕЛЛЕ**

Заўсёды ў садзе, ў агародзе
Між кветак дзіўнай акварэлі,
Паміж пладоў расце ў прыродзе
Наўкол асот і пустазелле.
Ніхто іх сеяць там не хоча,
Мажліва, іх пасеяў вецер,
І людзі ўсюды іх ахвоча
Ірвуць і нішчаць, быццам смецце.
Растуць палын, аўсюк, макрыца,
З валошкай сіняй ў хвалях збожжа,
І нішчаць жыта ці пшаніцу,
Хоць усміхаюцца прыгожа.
Між пустазелля паразіты
Часта бываюць на раслінах,
І мучаць, як людзей бранхіты,
Альбо халера ці ангіна.
Заўжды было ў грамадстве многа
Людзей такіх, як пустазелле,
Нікому не даюць нічога,
Забаў жадаюць і вяселля.
Ёсць у грамадстве паразіты,
Эксплуататары народа,
Між імі злодзеі, бандыты,
Сейбіты сварак і нязгоды.
Яны ірвуцца да багацця,
Стараюцца дабіцца ўлады,
І не ўзрушаюць іх пракляцця,
І не баяцца слоў пагарды.

**БЕЛЫЯ ГАРЛАЧЫКІ**

Як люстра на возеры ззяе вада
А бераг, як хмарай, пакрыўся імглою,
Гарлачыкаў белых плыве чарада
Па возера гладзі, як гусі ракою.
Плывуць чарадою яны да ракі,
Глядзяць на іх з берага сумныя вербы,
І з чорнымі пёрамі з вербаў гракі
Выглядваюць з гнёздаў на вербах, як гербы.
А сонца праменні кідае згары,
Гарлачыкі шлюць для яго прывітанне,
Чуць ветра над імі і гоман, і ўзрыў,
І жаль, што чакае ўжо з імі расстанне.
Раскрылі ўсе кветкі пялёсткі свае
Вяночкі іх ззяюць у сонечным бляску,
Здаецца, плыве дарагое калье
Па сінім азёрным бліскучым участку.
Вось з берага вецер прыбег і пагнаў
Гарлачыкаў белых па возера хвалі,
Хавалася ў пырсках вады бялізна,
Іх кветак калье, як у шэрай вуалі.
Гайдаюцца кветкі на ветры між хваль,
Ужо да ракі даплылі чарадою,
Здалёк выглялаюць, як белы паркаль,
Які расцягнуўся, як шаль над вадою.
І што іх чакае ў глыбокай рацэ?
Куды іх загоніць хваль цёмных ватага?
Ці знойдуцца хутка ў дзявочай руцэ?
Ці ў рэчцы загінуць яны са знявагай?

**ЯБЛЫНІ**

Прыгожыя яблыні ў садзе,
Галінкі іх вецер трасе,
А яблыкі, як у каскадзе,
Блішчаць у чароўнай красе.
    Вясёлкаю ззяюць іх твары,
    Смяюцца ў лістоце галін
    У пекным ружовым загары,
    Ці ў колеры спелых малін.
Як часам мацнейшы дзьме вецер,
То падаюць яблыкі ўніз,
Спявае на яблыні вецце,
У сонцы чакае на прыз.
    І поўна шароў каляровых
    Ляжыць на зялёнай траве,
    Як рой яркіх кветак вясновых
    Расце на лясной мураве.
Шчабечуць вясёлыя птушкі,
Лятаюць па садзе між дрэў,
Павесілі ім тут кармушкі,
І з іх чуць іх крыкі і спеў.
    У сад заглядаюць  дзяўчыны,
    Кладуць яблык многа ў кашы,
    Згінаюць да іх свае спіны,
    Прыйшлі сюды проста з шашы.
Прыехалі ўсе на машынах,
Аж з горада з новых сядзіб.
Бо родная ў вёсцы мясціна
Нагадвае  радужны німб.

## БЫВАЕ

Бывае, што смутак грызе нас ад ранку
Не можам знайсці мы спакою нідзе,
Здаецца, што прыйдзе да нас неспадзяванка
І мы апынёмся ў вялікай бядзе.
    Не можам пазбавіцца злых прадчуванняў,
    Бо ходзяць за намі яны, быццам цень,
    Баімся, што ўтопімся ў зла акіяне,
    Што хутка надыдзе для нас страшны дзень.
Ад ранка дождж, вільгаць і чорныя хмары
Яшчэ павялічваюць нашу журбу,
Калі бачым мокрыя ўдзень тратуары,
Зімою за вокнамі снегу гурбу.
    І раптам, як выгляне з цёмнага неба
    Гарачага сонца бліскучы прамень,
    Зазяюць вясёлкаю кветкі на глебах,
    Павее прыемнага ветра струмень,
Як вецер разгоніць нам чорыя хмары
На небе пакажацца ясны блакіт,
І сонца прамені з нябёс пекнай чары
Нам сеяць пачне, як чароўны сейбіт.
    То раптам пачуем мы ў мускулах сілу
    І ўміг пераможам суму, дзіўны страх,
    Не будуць нас страшыць міражы магілы,
    Не будзе пужаць нас прыдуманы жах.
Адразу пачуем ахвоту да працы,
Да мілых прыемных, вясёлых сустрэч,
Не будуць злаваць, а смяшыць нас паяцы,
Іх жарты, грымасы і кожная рэч

## НАТУРА

Калісь жылі ўсе продкі нашы блізка да натуры,
Ганяліся за гуртам мамантаў, зуброў ці тураў,
У гушчарах хаваліся ад бліскавіц, ад буры,
І апраналіся ў адзенне са звярынай скуры.
Калі забілі звера дзесь, сям'я была шчаслівай,
Як мяса не маглі знайсці, то елі грушы, слівы,
Мёд мелі з дуплаў дрэў, распальвалі агонь крэсівам,
А як галодныя былі, варылі суп з крапівай.
Іх маткаю жыцця тады была ўвесь час прырода,
Вясёлыя яны былі, калі была пагода,
Давала лёгка ім тады яду і асалоду,
І праміналі ў іх тады хваробы і нягоды.
Аднак прырода не заўжды бывала добрай маткай,
І для людзей была і ёсць вялікаю загадкай,
Іх частавала многа раз пагодай вельмі гадкай,
Гразіла віхрам, бураю, як грозная вар'ятка.
Хацелі продкі разгадаць яе ўсе таямніцы,
І выкрасці іх ад яе ўсе, як ад чараўніцы,
Ад холаду пабудавалі хаты і цяпліцы,
А каб зімою мець пірог, пасеялі пшаніцу.
Прыроды тайны вырывалі кожную хвіліну
Пабудавалі на яе вялікія машыны,
Яны на месяц падняліся птушкай без драбіны,
Іх апараты ўжо на Марсе робяць каляіны.
Аднак не могуць зберагчыся людзі ад цунамі,
Спыніць злых хваль ад землятрусаў моцных пад марамі,
Прырода людзям смерць нясе з марскімі тайфунамі,
Не могуць людзі іх затрымаць перад гарадамі.

**ЛІСЦЕ**

Люблю, калі вясной на дрэвах
З лістоты з'явіцца плюмаж,
На ім пачую птушак спевы,
Іх гучны шчэбет, вернісаж.
　　　　На лісцях хралафіл, пігменты
　　　　Ствараюць свежы кісларод,
　　　　А многія медыкаменты
　　　　Даюць нам зёлкі, агарод.
І вырастуць між лісця кветкі
Заззяюць радугай сады,
Лугі, дарогі і палеткі,
Лясы паляны і груды.
　　　　Выходзяць з кветак познім летам
　　　　Між лісця спелыя плады,
　　　　Яны блішчаць, як бранзалеты,
　　　　Пакуль не прыдуць халады.
З халодным ветрам, з непагодай
Прыходзіць восень кожны год,
Тады лістота ў агародах
Вітае золатам народ.
　　　　Жаўцее лісце і чарнее,
　　　　Яго прыцягвае зямля,
　　　　Пасля буцвее на алеях,
　　　　Гніе і гіне спакваля.
Галіны голыя зімою
Прыкрые часта тоўсты снег,
Пад снежнай белай прастынёю
Знаходзяць дрэвы свой начлег.

# ЮБІЛЕЙНЫЯ ВІНШАВАННІ

## НА 55 – ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ „НІВЫ”

Прайшло ўжо пяцьдзесят пяць вёснаў,
Як нарадзілаася жывая
„Ніва” на клумбе кветаноснай.
Цвіце ўвесь час, як кветка ў раю,
Прыгожая і маладая.

Таму, хто помніць дзень далёкі,
Яе дзень слаўны нараджэння,
Хоць у маршчынах мае шчокі,
То ўсе ўспаміны з дасягнення
Яму ў жыцці даюць натхненне.

Я рад, што на яе старонках
Калісь мае знайшліся словы,
Яны гучалі ў вершах звонкіх
Пра нашы вёскі і дубровы
У час вясновы і зімовы.

Яны гучалі ва ўспамінах
Пра ўжо забытыя падзеі,
Аб перажытых мной хвілінах
У лапах грознага кашчэя,
Чакаючы ў імгле надзеі.

Хачу, каб многа юбілеяў
Яшчэ нам „Ніва” святкавала,
Каб беларусам, быццам Фея,
Цуд роднай мовы даравала
І след аставіла трывалы.

На юбілей „Ніве” жадаю,
Каб не састарыла ніколі
І, як багіня маладая,
Была сяброўкаю ваколіц,
Гаючым лекам нашай долі.

**ВАСІЛЮ ПЕТРУЧУКУ**
*На 85 гадавіну нараджэння.*

Мой Дружа, Вася Петручук,
Радзіўся Ты раней на свеце,
Аднак пасля Ты, як хлапчук
Цярпеў, не бавіўся, як дзеці.
Бо матку страціў Ты сваю,
А мачаха Твая, мегера,
Падобнай стала на змяю,
Змяіныя ўвяла манеры.
Тады не бачыў я Цябе,
Хоць не дзялілі там нас горы,
Ды мой жыццёвы карабель
Не мог сустрэць Твайго на моры.
Мы не спаткаліся тады,
Калі меў працу Ты ў Варшаве,
Бо кожны з нас быў маладым,
Блукаць мог ўсюды па дзяржаве.
Пачуў я твой жыццёвы шлях,
Як мне папала ў рукі ,,Пожня”,
Пабачыў там дзіцячы страх
Пад лапаю мегеры грознай.
Нас пазнаёміў Беласток
На семінарах ,,Белавежы”,
Я пазнаваў Твой кожны крок
З Тваіх апавяданняў свежых.
Табе жадаю, каб штогод
Пісаў свае апавяданні,
І каб наступны кожны год
Твае ўсе выканаў жаданні
Яшчэ жадаю сапраўды,
Каб ты здароўе меў заўсёды,
Бадзёрым чуўся, маладым,
І меў шчаслівыя прыгоды.

**23жніўня 2011 г.**

# РАЗВАЖАННІ

## НАКАНАВАНАЯ СПРУЖЫНА ЛЁСУ

Наканаваная спружына лёсу
Нас часта цягне ў бездань чорнай ночы,
Як часам бура пхае дзесь матросаў
І ў ёй нічога іх не бачаць вочы.
    Калі зазяе дзесь святло ў дарозе,
    Мы ў прорве не пабачым нашай мэты,
    Змяніць кірунку руху мы не ў змозе,
    Лёс не раскрые нам свае сакрэты.
Папасці ў прорве можам у няволю
І мучыцца пад пугаю чужынцаў,
Там праклінаць сваё жыццё і долю,
Цярпець гадамі здзекі ад злачынцаў.
    Лёс можа выкінуць нас на пустыню,
    Дзе будзем адчуваць са смагай голад,
    Ці кіне ў тундру нас, ці на ільдзіну,
    Дзе ўдзень і ноччу нас замучыць холад.
Наканаваная спружына лёсу
Ахоплівае войнамі народы,
Тады яе смяротныя калёсы
Ахвяры душаць, ім нясуць нягоды.
    А іншым лёс дае ў жыцці багацце,
    Не маюць горычы, а асалоду,
    Не ведаюць хваробы і няшчасця,
    Не знаюць у палацах невыгоды.
А нейкіх лёс выцягвае з балота
І ў рукі ім дае бізун тырана,
Яны ім карыстаюцца з ахвотай
І цешацца, як робяць людзям раны.

**ЦЯЖКАЯ НОЧ**

Як цяжка разбуджаным быць цёмнай ноччу,
Калі сон да раніцы ўжо не бярэ,
Стараюся мецць пад павекамі вочы,
Ды думкі блукаюць пяшком на дварэ.
Заходзяць далёка ў часы маладосці,
Прыпомняць даўно ўжо сяброў нежывых,
Калі запрашалі мяне дзесь у госці
Пабавіцца з імі на луг веснавы.
То скачуць у пекла забытай няволі,
Дзе пугаю страшыў фашыст малады
І біў па чарзе ўсіх, як звер без патолі,
Смяяўся, як бачыў ад пугі сляды.
То думкі зімою ўбягуць у вагоны
І бачу, як мёрзнуць салдаты пры мне,
Ды чую іх ціхія скаргі, праклёны
На цесныя боты, на дзіркі ў сукне.
То зноў у шпіталь забягаюць ваенны
І чую, як стогнуць салдаты ад ран,
Пільнуюць усіх санітаркі сумленна,
Салдатам здаецца іх помач, як на зман.
Устану і гляну праз шыбу на зоркі,
На месяц, што ззяе, як факел, згары,
На сумныя дрэвы, між ценяў задворкаў,
Як свецяць на вуліцы два ліхтары.
Вярнуся ў пасцель, галаву да падушкі
Прыцісну, каб думкі пабеглі ў яе,
Яны ў галаве зноў лятаюць, як птушкі,
Іх сон браць не хоча ў абдымкі свае.

**ПАКУТА**

Як злы кажан, цішком пакута
Нам улятае праз акно,
І поіць нам душу атрутай,
А ў сне яе п'е, як віно.
　　Пасля душа, як ад пахмелля,
　　Пакуту чуе доўгі час,
　　Шукае шчасця і вяселля,
　　А з горам бачыцца анфас.
Нясуць пакуту злыя людзі,
Разбойнікі і лайдакі,
Запоўнены ў іх помстай грудзі,
Ахвяр клююць, як хіжакі.
　　Яны не ведаюць патолі,
　　Заўжды іх цешаць раны, боль,
　　Як людзі мучацца ў няволі
　　Над імі хочуць мецць кантроль.
Такія людзі твораць войны,
Бо любяць, як ваенны тромб
Нясе смерць жыхарам спакойным
Ад куль, снарадаў, граду бомб.
　　Вайна рукамі злой пакуты
　　Усюды творыць злых людзей,
　　Без сораму, каварных, лютых,
　　Якіх не знойдзеш больш нідзе.
Яны, не маючы спагады,
Слабенькіх мучаць, як звяры,
Пакуце выдаюць загады
Піць кроў іх звонку і ўнутры.

**ЭСХАТАЛОГІЯ**

Тысячы год,  як пужалі наіўных ,,пракокі"
Карай пякельнай за ўсе іх грахі на планеце,
Страшным судом прад прастолам нябесным высокім,
Смерцю прыроды і смерцю жыцця ў гэтым свеце.
Сведкі Іеговы нас страшылі ў кніжках нядаўна,
Дату далі канца света ў мінулым стагоддзі,
Секту сваю пахвалілі яны беспадстаўна:
.            Быццам Бог цэніць людзей толькі з іх асяроддзя.
Потым змянілі зноў дату зямной катастрофы,
Новыя даты  даюць кожны год бессаромна,
Даты змяняюць, так хутка, як я свае строфы,
Будуць хлусціць, каб падманваць наіўных нястомна.
Грозяць нам рэдка вялікія метэарыты,
Часам сцягнуць можа іх прыцяжэнне зямное,
З космасу могуць  да нас прыляцець, як  бандыты,
Знішчыць лясы, гарады, ў іх стварэнне жывое.
Шчасце ўсе мелі з Тунгускім  метэарытам,
Толькі тайга пацярпела тады ад пажару,
Нават не ведаюць людзі яго габарытаў,
Кратэру ён не аставіў магутным ударам.
Відна згарэў ён яшчэ над зямлёю ў паветры,
Бляскам і гукам настрашыў ён сведкаў далёкіх,
Тысячы дрэў паламалася, ўпала ад ветру
І загарэлася полымем якім высокім.
Праўдападобна ў далёкі нам юрскі перыяд
Метэарыт грозны знішчыў усіх дыназаўраў.
Часта пужаюць людзей тут касмічнай стыхіяй,
Толькі часцей людзі церпяць ад бур і пажараў.

## КАСМАЛОГІЯ

Мы гіпотэзаў пазналі многа ад вучоных
Аб пачатку света, аб яго тварцы,
Аб паўстанні ў небе зорак незлічоных,
І якія іх чакаюць дзесь канцы.
Дзіўная геацэнтрычная сістэма
Догмаю была праз доўгія вякі,
Каты ўсім гразілі нават за дылему,
І Джардана Бруна згінуў з іх рукі.
На кастрах палілі за другія думкі,
Дзіўна, што Капернік ад кастра ўцалеў,
Бо ад інквізіцыі ўжо не было ратунку,
Доўга нішчыў ўсіх яе страшэнны зеў.
Потым даказалі хутка касмалогі:
Зорка – гэта сонца, не агністы птах.
Многа зорак творыць светлую дарогу,
Белую галактыку, наш ,,Млечны Шлях”
Выкрылі галактык безліч у сусвеце,
Іх знаходзіць больш наш лепшы тэлескоп,
Тыя, што далёка, вельмі слаба свецяць,
І дзесь уцякаюць ад нас наўгалоп.
Адлятаюць хутка ўсе яны ў прастору,
Іх ,,Вялікі выбух” гоніць у сусвет,
Недзе, як асколкі дзесь ляцяць у мора,
Каб упасці ўраз на бурных хваль хрыбет.
Могуць ўпасці дзесь яны да ,,чорных дзірак”,
Можа захапіць іх дзесь якісь квазар,
Выстраляць іх потым гучна, як з марціры,
Будуць у сусвеце бліскаць, як ліхтар.

**ЗЛАСЛІВЫ ЛЁС**

Лёс чалавека можа быць зласлівы,
Яго не завядзе ніколі ў пантэон,
Піхне яго знарок да Артэміды мсцівай,
І згіне ён аленем, быццам Актэон.
Сын Арыстэя і прыгожай Автаноі
Ішоў на паляванне з зграяю сабак,
Убачыў Артэміду, як калісь Хам Ноя,
У возеры, пачырванеўшы, як бурак.
Як выйшла Артэміда з возера і з ценю,
Яе жывое цела ззяла, як парча,
Як Актэона ўбачыла, яго ў аленя
Змяніла хутка ў німфаў на вачах.
Калі аленя ўбачылі яго сабакі,
Накінуліся ўміг на ўладара,
І не аставілі па ім і знаку,
Там ён загінуў, як на целе камфара.
Калісь лёс да мяне не меў патолі,
Праз тры гады смяяўся нада мной.
Мяне кідаў у кіпцюры няволі,
Пад кулямі трымаў пры мне канвой.
Пасля ён злітаваўся нада мною.
Памог мне выйсці з гора і бяды,
Даў мне мажлівасць уцячы з канвою,
Дамоў, у цемры паказаў сляды.
Чуў потым я ў жыцці яго апеку,
Сачыў, каб я не заблудзіў нідзе,
Лёс хваляваўся за маю бяспеку,
Цяпер па сцежцы добрай ён вядзе.

## УТОПІЯ

Утопія ў жыцці ёсць мрояй,
Яна не спраўдзіцца ніколі,
Хоць утапісты часам зброяй
Свой план уводзяць без патолі.
    Сваёй ілжывай прапагандай
    Прыхільнікаў знаходзяць чуткіх,
    Загады іх пад іх камандай
    Яны выконваюць ім хутка.
І часта кроў людзей нявінных
Пальецца з рук іх памагатых,
Яны для мрояў утапійных
Дадуць прыхільнікам гарматы.
    Калі тлум імі ашуканы
    Іх узнясе на трон улады,
    Тады пабачаць, што іх планы
    Былі маною і прынадай.
Каб уцячы ад пакарання,
Уводзяць хутка дыктатуру,
І ўжо без доўгага чакання
Пакажуць нам пракуратуру.
    А  ўсіх праціўнікаў улады,
    У турмы ўкінуць і ў астрогі,
    Не будуць чуць да іх спагады,
    Караць іх будуць вельмі строга.
Так прапаганда камунізму
Ашуквала ўсіх бедалагаў,
Меў рай прыйсці ў сацыялізме.
Прыйшлі  знявагі і гулагі.

**МАЕ ВЕРШЫ**

Мае ўсе вершы самі ў кнігах
Спакойным цешацца жыццём,
Ахвот не чуюць да інтрыгі,
Іх не пужае забыццё.
Яны жывуць у сне глыбокім,
Разбудзіць часам нехта іх,
І кіне позірк сіневокі,
Пачуюць рэдка нейкі ўздых.
І будуць спаць ізноў спакойна
Праз тыдзень, можа праз гады,
Памарацб аб фігурах стройных
Дзяўчат прыгожых маладых.
Часцей верш дзесьці ў інтэрнэце
Пабачыць бляск жывых вачэй,
Бо ён раскінуў іх па свеце.
Там могуць іх знайсці хутчэй.
Там разыходзяцца ў эфіры,
Мільгаюць рыфмы, як вуглі,
Страляюць імі, як з марціры,
Дзесь па закутках на Зямлі.
Яны ўжо мне не прыналежны,
Як птушак дзікіх чарада,
Ляцяць да грані беласнежнай,
Дзе вострых гор стаіць града.
Яны жывуць жыццём асобным,
Бо ўжо не слухаюць мяне.
Хоць многа вершаў ёсць падобных,
Іх распазнаць магу і ў сне.

## У АБДЫМКАХ ЛЁСУ

Мы жывём у абдымках таемнага лёсу
І не ведаем, што нас чакае ў жыцці,
Можа кінуць нас лёс дзесь у прорву з адкосу,
Ці прымусіць нас доўга, як кветка, цвісці.
Заразіць лёс нас можа смяротнай хваробай,
Без журбы спаглядаць, як нас мучыць яна,
Можа нам падарыць недамогу, жалобу,
З асалодаю цешыцца, як сатана.
Можа нам прынясці страшны віхар ці буру
А яна нам рабурыць і клуню, і дом,
Скіраваць супраць нас нежывую натуру,
Каб нас страшылі ўраз бліскавіца і гром.
У абдымках яго можа лёс даць нам шчасце,
Нас ахоўваць заўжды ад бяды і хвароб,
Ажыўляць у жыцці ўсе гарачыя страсці,
Для кар'еры ўзысці на яе небаскроб.
Можа лёс узбудзіць у нас творчую сілу,
Дапаможа ў здароўі яе даглядаць.
Адганяць усіх дэманаў дымам кадзіла,
А ў балоце паставіць нам моцную гаць.
І тады будзем дзякаваць лёс за абдымку,
Што ад віхраў навальніц ён нас беражэ
І прасіць каб працягваў сваю зноў падтрымку,
Каб заўсёды мы чулі яго пратэжэ.
Бо бывае, што лёс нам спачатку паможа,
А пасля нас піхне пад дарожны адхон,
І з яго мы падняцца ніколі не зможам
І загінем, як Гітлер ці Напалеон.

**АСТРАЛОГІЯ**

Каралевай навук – астралогію,
Што наш лёс ёсць запісаны ў зорках,
Лічаць часта, ў яе вераць многія,
Як курцы, што іх лечыць махорка.
Вераць людзі, што ўсе іх эмоцыі,
Іх пачуцці і лёс іх жыццёвы
Запісаў нехта, быццам у лоцыі
Караблю ў падарожжы службовым.
Што жыццё наша ў зорках запісана,
Ад яго нараджэння да смерці
І хваробы, і лекі прыпісаны,
Нават дзень, калі мусім памерці.
Што для кожнага ў небе прадказана
Сфера дейнасці, ўсе дасягненні,
Вы зрабіць гэта ўсё абавязаны,
Хоць у вас і не будзе натхнення.
Калі вас запісалі здаровымі,
То ніякай не бойцесь хваробы,
Бо з віхурамі нават зімовымі
Не заб'юць вас ніколі мікробы.
Нават злодзеі разам з бандытамі
Дзесь запісаны тайна ў сузор'ях.
Выкрываецца ўсё варажбітамі
Па таемных слядах у міжзор'ях.
Вераць нейкія ў дэманалогію
І ў наіўныя нават прыказкі,
І між розных навук, астралогія
Ёсць напэўна прыдуманай казкай.

## Я ШЧАСЛІВЫ

Хоць многа я ў жыцці пазнаў бяды:
Няволю, фронт і іншыя няшчасці,
Хоць я забыў, калі быў маладым,
Люблю жыццё, ў жыцці я чую шчасце.
Шчаслівы я, хоць многа ўжо хвароб
Чапляецца мяне на кожным кроку,
Хоць многа бачыў навакол жалоб,
Ніколі я не быў у стане шоку.
Хоць у жыцці меў сотні я праблем,
Якія часта пагражалі смерцю,
Хоць многа розных ставілі дылем,
Ні ад адной я не хацеў памерці.
Канфлікты горкія прайшлі даўно
А з імі розныя мае сумненні,
Ніколі іх не заглушаў віном,
Свае выкарыстоўваў дасягненні.
Хоць невялікую нажыў сямью,
Адну дачку і аднаго ледзь сына,
Ды ўнукаў двух, ды ўсю сям'ю маю
Кахаю з жонкаю маёй адзінай.
Аб нас яны клапоцяцца ўвесь час
І памагаюць нам яны заўсёды,
Турбуюцца і даглядаюць нас,
Каб у жыцці мы мелі асалоды.
Таму шчаслівым чуюся цяпер,
Люблю жыццё і жыць хацеў бы доўга,
Любіў я працу, не шукаў кар'ер,
Мне ў працы не патрэбная падмога.

**БЛУКАННЕ  ДУШЫ**

Ва сне яе душа свабоду
Пачула, пачала блукаць,
Прайшла акном праз агароды,
Мінула поле, рэчку, гаць.
    І паплыла яна ў прастору,
    Вышэй ад птушак і ад хмар,
    І праляцела зверху горы,
    Свяціў ёй месяц, як ліхтар.
Зышла ніжэй, над светлым морам
Лятала нізка  над вадой
І ў бляску месяца і зорак
Глядзела на марскі прыбой.
    Над лесам слухала лістоту,
    Як вецер з птушкамі спяваў,
    І пра каханне і пяшчоту,
    Як страшыў звераў ваўкадаў.
На лузе аглядзела кветкі,
Як ззялі ў месяца святле.
Як на руцэ дзесь бранзалеткі
Ёй бліскалі ў начной імгле.
    Пасля з усходу бліскавіцы
    Душа пабачыла здалёк,
    Ляцелі іскры, як з паліцы,
    І асвятлялі бляскам змрок.
Душа вярнулася раптоўна,
Пабегчы  ветру наўздагон.
Яе зноў сэрца б’ецца роўна,
Прачнуўшыся, забыла сон.

## ЦІ ПОМНІШ ЯШЧЭ ?

Ці помніш яшчэ
Дзень першы спаткання,
Царкву, бляск парчы,
Лампад яркіх ззянне,
З сустрэчаю нашых вачэй?
Як з гэтай пары
Злучыў нас лёс разам,
І ўсе вечары
З душэўным экстазам
Дайшлі да супольных начэй?

Ці помніш той дзень,
Як мы былі ў Рызе,
Як там у духмень,
Па першай адлізе,
Шукалі пад дахамі цень?
Як потым хутчэй
Спяшылі мы да знаёмых,
А ўсё гарачэй
Дыск сонца грэў з-за харомаў,
Як злосны кашчэй ?

Ці помніш наш лёс,
Калі мы былі ў катастрофе,
Калі наш цягнік у адкос
Сышоў, як уніз эпістофы,
І страшна тады намі трос?
Як потым стаяў уначы
Цягнік наш самотны на полі,
І дзесьці грачы
Крычалі тады ў наваколлі,
Каб нам дапячы?

**ПСІХЕЯ І АМУР**

У Луўры бачыў я Псіхею,
Як цалавалася з Амурам,
Пачатак радаснай падзеі
Пад Афрадыты дыктатурай.
Бо перад гэтым пацалункам,
Яе крылатага Амура,
Шукала доўга паратунку
Ад злых пагроз і авантуры.
Зайздросцілі ёй нават сёстры,
Зайздросціла ёй  Афрадыта,
І розныя пачвары, монстры,
Замучвалі яе дасыта.
Была прыгожай і наіўнай,
Абсмажыла алівай мужа,
Канец аднак быў вельмі дзіўны
Багіняй стала ў час замужжа.
Муж папрасіў у бога Зеўса,
Каб жонкай стала несмяротнай,
Калі я ў Луўры з ёй сустрэўся,
Бог Зеўс згадзіўся з ім ахвотна.
Таму яна з такім азартам
У Луўры мужа цалавала,
Амур таксама поўны гарту,
Шчаслівым цешыўся фіналам.
І толькі страціла надзею
На помсту  Афрадыта злая,
Бо прыгажэйшая Псіхея
Заўсёды будзе маладая..

## ШУКАЎ Я ЦЯБЕ

Шукаў я цябе, як іголку ў саломе,
Пачаў я шукаць, як я быў маладым,
Хацеў я знайсці блізка роднага дома,
Пазнаў ад варожкі твае  там сляды.
Цябе не знайшоў там,  дзе быў я ў няволі,
Прымаў за цябе там я іншых дзяўчын,
Бо ты, маладая,  не знала ніколі,
Як горка смакуе няволі палын.
Дзялілі  тады нас і час, і прастора,
Саслоўя твайго я не ведаў тады,
Вайна і табе  ўжо  прынесла шмат гора,
Пагнала ў чужыя цябе гарады.
Шукаў я цябе на  далёкай чужыне,
Там многа прабег у той час я дарог,
Сустрэцца з табою на той каляіне
Ніколі тады ў гэтым месцы не мог,
Тады майго голасу ты не пачула,
Хоць рэхам ён нёсся па цэлай зямлі,
Магла чуць яго ў акіяне акула,
Маглі яго ў моры пачуць караблі.
І толькі, калі я  вярнуўся ў Варшаву,
Пайшоў памаліцца ў нядзелю ў царкву,
Знайшоў я цябе, як жывую праяву,
І ты падышла да мяне наяву.
Маглі тады споўніцца нашы жаданні
І пошукі нашы знайшлі свой фінал,
Лёс хутка памог нам у нашым каханні,
Яго не разбурылі бура і шквал.

## СПАДЧЫНА ПРОДКАЎ

Адышоўшыя ў вечнасць нам блізкія продкі
Астаўляюць патомкам плады сваёй працы,
Багацей пакідае набытак салодкі,
Сын яго забірае зямлю і палацы.
Бедалага не можа аставіць нічога,
Што было бы прыгодным унуку ці сыну,
І таму забываюць яны пра нябогу
І памяць аб іх у людзей хутка гіне.
Селянін астаўляе, як спадчыну, дзецям
Дзесь загоны зямлі, лес і луг, часта хату,
І ў падзяку яму на магіле па смерці
Пабудуюць крыж-помнік з яго смерці датай.
А здараецца часта, не маюць нашчадкаў
Каралі і князі, бізнесмены, магнаты,
Па іх смерці суды ўраз вышукваюць гладка
Сваякоў іх, ім іх прысуджаюць дукаты.
Я цяпер часта бачу, як людзі заўчасна,
Пры жыцці выкупляюць на могілках плошчу,
Там будуюць магілу сабе, як уласнасць,
Аддаюць яе ў спадчыну дзецям, як мошчы.
Як вярнуўся мой бацька з ваенных блуканняў,
То атрымаў у спадчыну лес, луг і поле.
Дом і сад, агарод адышлі ў завяшчанні
Да братоў яго, бо не вучыліся ў школе.
Перадаў я сястры ўжо бацькоўскую хату
І маёмасць усю: поле, лес, агароды.
Ёй яшчэ памагаў, бо жыла небагата,
Не хацеў мець ад спадчыны я ўзнагароды.

## ЧАС БЯЖЫЦЬ

Час заўсёды наперад бяжыць
І затрымаць яго мы не можам,
Ён не мае канечнай мяжы,
На яго не заложым аброжак.
Інтэрвалы, чарговасць падзей
Вызначае нам час у прасторы,
Час жыццёвы пужае людзей
Вельмі доўга, калі чуюць гора.
Час плыве, быццам хвалі ў рацэ,
Каб мінаць перашкоды да мора.
Безупынна жыццё ў нас цячэ,
Як вада ў рэчцы, бурна і скора.
Да той самай у рэчцы вады
Два разы не ўвайсці нам ніколі,
І ў жыцці быць заўжды маладым
Час нікому яшчэ не дазволіў.
З плыні часу астануцца ў нас
Многа добрых і злых успамінаў,
І слядоў, што калісь зрабіў час
Нам на нашых старых каляінах.
Нашы продкі аставілі нам
Многа помнікаў творчай іх працы,
Не адзін аглядаем іх храм,
Гарады, самалёты, палацы.
Мы аставім нашчадкам сваім
Нашы творы і наша багацце,
Каб пасля час мілейшы быў ім,
Каб яны мелі радасць і шчасце.

## БОЖАЯ КАРОЎКА

Дзівуецца чырвоны з кропкамі жучок
І з чорнаю маленькаю галоўкай,
Чаму яго, знарок ці незнарок,
Назвалі людзі божаю кароўкай.
Не мае ззаду ён ніякага хваста,
Свабодныя ад капытоў яго ўсе ногі,
Сядзіць і ходзіць ён па тоненькіх лістах,
На галаве яго не вырастаюць рогі.
Не можа шыі мець, мычаннем наракаць,
Не есць траву, а тлю і паразітаў,
Яго не дояць, бо не мае малака,
Яго не кормяць у хляве з карыта.
Не мае вымя, каб карміць цяля,
І ён не родзіць, толькі зносіць яйкі
Лятаць умее па лугах, палях,
Лятае хутка, як над морам чайкі,
Сустрэць іх толькі можна на лугах,
Са смакам там траву ядуць каровы,
А божыя кароўкі дзесь пры іх нагах
Пылок збіраюць з кветак каляровых.
Ніколі шэрсць у іх на целе не расце,
Не мучаць мухі летам іх на пашы,
Калі луг кветкамі навокал зацвіце,
Шукаюць радужнай прыгожай чашы.
Калісь яны з'явіліся на пляж,
Ля мора села некалькі груповак,
Зачырванеў на беразе міраж.
Ад бегаючых па пяску каровак.

## ЛЮБЛЮ ЦІШЫНЮ

Цяпер у шуме прапаганды
Штодзень трамбуюць нам мазгі,
Каб мы ў парфумах іх лаванды,
У іх зацягвалі даўгі.
    Каб мы заўсёды ў іх кішэні
    Былі залежнымі ад іх,
    Ля іх ставалі на калені,
    Як прад іконамі святых.
Калі я ў тэмпе метранома
Ману іх чую ды абман,
Яны абрыдлі, як аскома,
Атручваюць, як дурнап'ян.
    Хаваюся ад іх далёка,
    Ад іх шукаю цішыню,
    Бягу ад іх я хуткім крокам,
    Як ад гарачага агню.
Я парадніўся з цішынёю,
Утульнасць чую ад яе,
Не пераймаюся брахнёю,
Якая дзесь, як бубен, б'е.
    Замест крыклівай іх рэкламы
    Мне шэпча ціха цёмны лес,
    Жыццёвыя не мучаць драмы,
    І занікаюць злосць і стрэс.
Смяюцца белыя бярозы,
Ласкоча цішыня мой слых,
Вясёлым чуюся, цвярозым,
Мяне не страшаь іх іклы.

## АДКАЗ УНУКУ

Калісь запытаў мой унук у мяне:
Ці многа я немцаў забіў з кулямёта.
Ці згінуў салдат па маёй дзесь віне,
Не знаў я, не бачыў я кулі палёту.
Не ведаў, ці трапіла куля кагось,
Ляцела ў іх старану цэлая хмара,
Не бачыў, каго занеслі на пагост,
Каго пахавалі пад гукі фанфары.
Змушала вайна нас страляць у людзей,
Таксама страляў там і ў нас грозны вораг,
А ён забіваў і жанчын, і дзяцей,
І газам труціў іх у шчыльных каморах.
Стварыў крэматорыі ён для ахвяр,
І спальваў забітых атрутай на попел,
Ці мыла варыў з цел, як мылавар,
Развозіў яго ён пасля па Еўропе.
Паліў вельмі часта людзей ён жывых
У клунях, хлявах, як калісь у Хатыні,
Заўсёды ў налётах сваіх баявых
Ён нішчыў музеі, палацы, святыні.
Спачатку габрэяў у гета забраў,
Там мучыў ён іх, як пякельныя чэрці,
Іх голадам, працай і пугай караў,
А потым іх знішчыў у лагерах смерці.
Таму я тады да варожых людзей
На фронце не меў у баі спачування,
Аднак не страляў у жанчын і дзяцей,
Ім крыўд не рабіў у ваенных змаганнях.

# СЛЯДЫ МІНУЛАГА

## ПРЫГОДА

Пасля начнога ўцёку, амярцвелы,
Ляжаў я ў кучы сена над хлявамі,
Пачуў я знізу голас скамянелы:
,,Бяда! Прыйшлі жандары ўжо за вамі”.
Ды ўжо ўцякаць далей не меў я сілы,
Сон моцны ўжо закрыў мне хутка вочы,
І ў мягкім сене, пахнучым кадзілам,
Схаваўся я ў абдымках чорнай ночы.
Сябры мае асталіся са мною,
Таксама ўжо ўцякаць не мелі сілы,
Заснулі ў цёплым сене пад сцяною,
Не абудзіў іх нават храп кабылы.
Баяліся жандары ўзяць нас з вышак,
Відаць, падумалі, што маем зброю,
Знайшлі сабе пад клуняю зацішак,
Чакалі нас з сабакай пад страхою.
Мы, змучаныя, доўга спалі ў сене,
Прачнуліся, амаль быў час абеда,
Зышлі мы ўніз, знайшлі свае адзенне,
І выйшлі, і сустрэла нас злыбеда.
Навокал акружылі нас жандары,
Ды дакументы мы ім паказалі,
Што франтавыя нас прыгналі хмары
І мы спяшым туды, дзе працавалі.
Паверылі жандары нам і нават
Нам паказалі добрую дарогу,
І мы пайшлі без страху, вельмі жвава
Да нашай мэты, дзякуючы Богу.

**ДЭЛЬФІНЫ**

Я плыў калісьці з Адлера ў Сухумі
На катэры, крылатым караблі,
Смалістыя хваль пены, як бітумы,
Шумелі і за катэрам плылі.
На чыстым небе сонца ярка ззяла
Марскі ўвесь залаціўся краявід
І ў хвалях заблішчалі, як каралы,
Дэльфіны тры, як казачны прывід.
Плылі яны за катэрам паблізу,
Паказваючы чорныя хрыбты,
Як скочыўшы ўверх, падалі данізу,
То ярка ў іх бялелі жываты.
І хутка, як іголкі шылі хвалі,
Скакалі быццам чорныя каты,
Хвастамі пены мора разбівалі.
З іх кожны паварот рабіў круты.
Глядзелі на іх з катэра турысты,
Да танцаў заахвочвалі ўвесь час,
Дэльфіны выступалі, як артысты,
І цешыліся, гледзячы на нас.
І піскам выражалі часта радасць,
Іх голас вылятаў з-пад пырскаў хваль,
А мора ім спявала серэнады,
Якія разыходзіліся ўдаль.
Хтось з катэра рукою кінуў рыбу,
Як акрабат яе схапіў дэльфін...
Я дэльфінаў там бачыў не праз шыбу,
А ў Чорным моры і не сам адзін.

## ЛАГЕР ВАЕННАПАЛОННЫХ

Іх не мардавалі так, як у Катыні,
Куляю ў патыліцу ніхто ў іх не страляў,
Не спалілі іх агнём, як у Хатыні,
А калючым дротам страшылі здаля.
Нішчылі іх толькі голадам і смагай,
У старых бараках з вокнамі без шыб,
Бачылі ў ахове позіркі знявагі,
На вільготных сценах цвіль расла і грыб.
Спалі ўсе палонныя на голых дошках
У дзіравых гімнасцёрках і штанах,
Кроў у іх пілі з клапамі, вошы з мошкай.
Чырванела ад клапоў уся сцяна.
Паразіты прынасілі ім мікробы,
Панавалі дэзентэрыя і тыф,
Забівалі іх смяротныя хваробы,
Выкідалі штодзень мёртвых за драты.
Іх там тысячы ўміралі ў цяжкіх муках,
Ад марозу, галадоўкі і хвароб,
А гавораць, што ўміралі без прынукі,
Вінаваты быццам толькі быў мікроб.
Ім лягчэй тады ўміраць было б ад кулі,
Чым цярпець там холад, голад, цела боль,
Чым зімою мерзнуць у адной кашулі,
Дзе ад інею блішчэла ўсюды столь.
Смерць ад голаду з'яўляецца больш лютай
Чым ад кулі у затылак усур'ёз,
Чалавек менш церпіць ад атруты,
Чым ад холаду ў бараках у мароз.

**ПЕСНІ ДУДАРА**

На лузе слухаю ўдзень дудара,
Хоць вельмі смутныя ён грае песні,
Яго не мучыць моцная жара,
Якая прыгравае напрадвесні.
    Я чую плач у музыцы яго,
    Вялікую журбу пасля разлукі,
    Гарачае каханне, як агонь,
    З сустрэч каханкаў у азарце гукі.
Пачуў я ў музыцы яго душу,
Душэўныя чароўныя малітвы,
І зазвінела радасць увушшу
Сям'і, калі іх сын вярнуўся з бітвы.
    Пачуў у музыцы я плач жанчын,
    Калі гарэла ў час ваенны вёска,
    І радасны вясёлы спеў дзяўчын,
    Калі на шлюб праехала павозка.
Пасля зайграў мелодыю дудар
Аб караблі і аб шырокім моры,
Як уміраў пры печцы качагар,
Ад злой хваробы, жалю і ад гора.
    Я песні чуў пра нашае жыццё,
    Пра перажытыя ўсе драмы нашы,
    Пра нашых сэрц гарачае біццё,
    Калі спяваем песні аб Падляшшы.
Каровы елі сочную траву
І песні слухалі ўсе з асалодай,
Апушчаную мелі галаву
І цешыліся цёплаю пагодай.

**НЕ ЖУРЫСЯ**

Не журыся, што фронт ужо блізка,
Што гудзяць самалёты наўкол,
Ліхтары з іх гайдаюцца нізка,
Кожны бліскае, як арэол.
Мы сядзім у бульбянішчы разам,
Хутка вогнішча будзе, бо дроў
Прыняслі мы з сабою адразу...
Не маўчы, хоць скажы пару слоў.
Мы на дровах паставім каструлю
І наварым мы бульбы ў вадзе,
Франтавыя не страшаць нас кулі,
Мы спакойна тут можам сядзець,
Бульбай хутка прагонім наш голад
І нап’ёмся гарачай вады,
Хай гудзяць самалёты наўкола,
На цябе, хай не робяць жуды.
Распаліў я ўжо вогнішча, бачыш,
І каструля прыкрыла яго,
Не журыся, чаму ты тут плачаш?
Паглядзі, як палае агонь!
Як мы з’елі, глядзіш мне на вусны,
Асушыла ўсе слёзы свае,
Пазірк мілы, чароўны, спакусны,
А на шыі я бачу калье.
Бачу, з твару праходзіць маркота,
Прытуліся хутчэй да мяне,
У прыемных супольных пяшчотах
Мы забудзем зусім аб вайне.

## ВОСЕНЬ ПАДЫХОДЗІЦЬ

Восень падыходзіць з ліўнем і маланкай,
Вуліцай машыны ездзяць у вадзе,
Вецер прабягае перад мураванкай,
Вые за сцяною сёння цэлы дзень.
    Буслы хочуць хутка вылецець у вырай
    І пакуль ёсць лівень, туляцца ў гняздзе,
    За акном паветра пахне жоўтым сырам,
    Бо гніе лістота мокрая ў вадзе.
Ноччу адышлі на ўсход і дождж, і хмары
Раніцай заззяла сонца за акном,
Нехта на балконе грае на гітары,
І не бачу белых буслаў над гняздом.
    Вохраю на дрэвах ззяе ўжо лістота
    Хіба лівень колер ім змяніць памог,
    За акном яшчэ не высахла балота,
    Чую, як там вецер шэпча маналог.
Восень падыходзіць, чуць яе тут крокі,
Лета ў гэтым годзе мокрае было,
Часта вылівалі рэкі і патокі,
Не адну сядзібу ў вёсках заліло.
    Часта дакучалі віхры і ўраганы,
    Не адзін сарвалі з хат ці з клуняў дах,
    Па сваёй дарозе беглі, як тараны,
    У людзей у вёсках выклікалі жах.
Можа быць пагода лепшая налета,
Восенню не будзе страшыць нас бяда…
Хоць і кепскае было ў тым годзе лета,
Як прыходзіць восень, мне яго шкада.

## ДРУГІ ЎНУК МОЙ УЖО ЖАНАТЫ

Другі ўнук мой ужо жанаты
Яшчэ нядаўна ён малы
Паважныя са мной дэбаты
Вёў, як мужчына пажылы.
З ім сустракаў я рэкі, горы,
І не адзін наведваў пляж,
Блукаў з ім лодкаю па моры,
З ім бачыў не адзін міраж.
Як іх бацькі за акіянам
Свае паказвалі сляды,
Вадзіў я ўнукаў кожны ранак
У школу дзесь праз два гады.
Я цешуся, што іх удача
Трымаецца праз цэлы час.
Што іх не страшыць недастача,
І што чакае іх аванс
Што ім раней іх наваселле
Купілі іхнія бацькі,
Што іх багатае вяселле
Таксама выйшла з іх рукі.
Калі навокал беспрацоўе
Пужае ўсіх, як менінгіт,
То іх і праца і здароўе
Прыцягвае, так як магніт.
Што не чакае іх прытулак
У час марозаў і зімы,
Прыгожы маюць свой завулак,
Там дзе стаяць іх два дамы.




1994 г.ЗША, Чыкага. Сын Д. Шатыловіча, Георгій на вакзале

# ЗАГАНЫ ЖЫЦЦЯ

## ЁСЦЬ ТАКАЯ ДЗЯРЖАВА

Ёсць такая паблізу дзяржава на свеце,
Дзе не любіць улада сваёй роднай мовы,
І людзей прымушае, каб іхнія дзеці
Назаўсёды матчыны забылі ўсе словы.
Ёсць такая дзяржава, дзе іх прэзідэнтам
Стаў нядаўна суровы бяздушны дыктатар,
Ён трымаецца сілай свайго пастамента,
Ды падманвае ўсіх, як артыст імітатар.
Ёсць такая дзяржава, дзе ўсе пасяджэнні
У парламенце іх на чужой чуем мове,
І праводзіцца ўсё пад дыктатара ценем,
Там чакаюць на жэст яго, напагатове.
Прэзідэнт той дзяржавы заўсёды ў прамовах
Карыстаецца толькі там мовай чужою,
Бо не ведаў ніколі сваёй роднай мовы
І не здольны яе навучыцца ў спакою.
Ёсць такая дзяржава, дзе лекцыі ў школах
Там вядуцца заўсёды на мове суседа,
Гаварыць там змушаюць па-руску наўкола,
З роднамоўнага часта смяюцца, як з дзеда.
Ёсць такая дзяржава, дзе людзі ў калгасах
Прымітыўна працуюць, як пры камуністах,
Дзе сялянам за працу даюць хлеб і мяса,
Дзе суботнікі робяць усім актывістам.
Ёсць такая дзяржава, дзе ў ёй прэзідэнтам
Стаў стары дзяржымορда, начальнік калгаса,
Ён пачаў хутка нішчыць усіх апанентаў,
А народ уважаць стаў за цёмную масу.

## БЕСПРАЦОЎЕ

Змагаліся людзі калісь за свабоду
І трацілі часта ў змаганні здароўе,
Свабода, як бура, прыйшла да народу,
За ёю з’явілася ўміг беспрацоўе.
І стаў павялічвацца хутка пагост,
Паменшыўся з ім натуральны прырост.
Калісьці на тысячагоддзе дзяржавы
Усюды народ будаваў дзецям школы,
І іх збудаваў больш чым тысячу жвава,
А сёння пустыя стаяць часта ў сёлах,
Брак працы прагнаў за граніцу людзей,
У вёсках амаль што няма ўжо дзяцей.
Пусцеюць навокал падляшскія вёскі,
Бо працы шукае дзесь моладзь далёка,
Замежжа таксама іх ловіць на лёскі,
Не страшная ім аравійская спёка.
Старых толькі многа людзей у сяле,
Малодшыя працы шукаюць далей.
Раскошна жывуць бунтары і паяцы,
Што рай абяцалі калісьці рабочым,
І з іх дапамогай знайшліся ў палацы
Дзяржаўнай улады з далёкіх абочын.
Забылі свае абяцанкі яны,
Не чуюць нат сораму ўсе ілгуны.
З палацаў улады ляціць пустаслоўе:
Хвальба, абяцанкі, мана штомінуту,
І труціць мільёны людзей беспрацоўе,
Як самая горкая ў свеце атрута.

## ЧЫРВОНЫЯ БІЗНЕСМЕНЫ

Раней чырвоныя сатрапы,
Трымаючы ў бядзе народ,
Змушалі пугаю і зяпай
Імперыю ўзмацняць штогод.
Ім будаваў народ заводы,
Руду і нафту дабываў,
Клаў у зямлі газаправоды,
Сам часта голад адчуваў.
Калі аслабла іх улада,
Сварыцца сталі навакол,
Тады, як плітцы шакалада.
Імперыі гразіў раскол.
І ўладалюбцы захацелі
Узяць уладу мяцежом,
І п’яніца ў той каніцелі
Тады чырвоным стаў царом.
Як быў чырвоным прэзідэнтам,
Імперыю ўсю расчляніў,
І са знаёмых прэтэндэнтаў
Стварыў уладны свой актыў.
І тое, што народ калісьці
Ахвярна доўга будаваў,
Задарма ён і без карысьці
Сваім знаёмым раздаваў,
Наўкол чырвоных бізнесменаў
Ён выпускаў з Крамля гурбой...
Цяпер яны для перамены,
Жывуць багата за мяжой.

**ПЕНСІЯНЕР**

Хутка будзе ўжо чвэрць веку,
Як я стаў пенсіянерам,
Бачыў зло і небяспеку,
І прыглядваўся аферам.
Быў я сведкам трансфармацый,
Як змяняліся ўсе ўлады,
Крыку, вычварных авацый,
Злоснай помсты без спагады.
Быў наглядчыкам далёкім
Грозных войнаў на Балканах,
Як лілася кроў патокам,
Дзесь між скал Афганістана.
Як Ірак дрыжэў ад гукаў
Бомб, гармат і кулямётаў,
Як арабаў страшыць грукат
Танкаў, стрэлы з самалётаў.
Сведкам быў, як беспрацоўе
Расшыралася ў дзяржаве,
На пратэсты – мнагаслоўе
Чулася ва ўлад араве.
Як карупцыя тварыла
Багацеяў між спрыцюгаў,
Як злачыннасць цэраз сілу,
З ганьбы сталася заслугай.
Рой бандытаў, шайкі, хеўры
І бяздомныя навокал,
Папсавалі многім нервы
І бянтэжаць нас глыбока

**МАНА**

Калісь Паскаль у час сваёй тугі
Сказаў прыказку горкую для люду:
Калі не ашукаем мы другіх,
Тады другіе нас ашукваць будуць.
    Калі мы не ашукваем улад,
    Падаткі плацім  ім мы тэрмінова,
    То нас ашуквае заўсёды ўрад,
    Мана гучыць у палітычных мовах.
Прад выбарамі абяцанак рой
Мы чуем ад палітыкаў навокал,
Пасля змяняюць радужны настрой,
Маной сваёй даводзяць нас да шоку.
    Хваробаю грамадскай папулізм
    Нас мучыць, да яе мы  прывыкаем,
    Так як яшчэ нядаўна камунізм
    Нам абяцаў, што будзем жыць ў раю.
Мана ператварацца можа ў спорт,
Усіх ашукваць будзем без спагады,
І нават адчуваць пры ёй камфорт,
Прывыкнем хутка да сямейнай здрады.
    Бо здрада моднай стала ў нас цяпер,
    І бачым моднымі наўкол разводы,
    Мане няма нідзе ў жыцці бар’ер,
    Яна ўзяла ў абдымкі ўсе народы.
З маны паўсталі войны і тэрор,
Яна бярэ вялікія ахвяры,
Пакуль мане мы не дадзім адпор,
Нас будзе страшыць, як маланка з хмары.

## СВАБОДА

Прабеглі праз краты цэнзуры
Нарэшце свабодныя словы,
Ляцяць  часта з крыкам панурым
Праз вёскі, палі і дубровы.
Ды з праўдай ляціць вельмі часта
Мана і хлусня з ашуканствам,
Якія выдумвае каста,
Каб  змусіць людзей да падданства.
Ляцяць  крыкі скаргаў і плачу,
Ды рэдка хто слухаць іх хоча,
Са смехам глядзяць на няўдачу
Багатых бяздушныя вочы.
Свабода прыйшла для падману,
Грабеж стаў нармальнаю з’явай,
Для розных злачынных тыранаў
Багацце прыходзіць са славай.
Свабода ўвяла беспрацоўе
З грашовай для іх дапамогай,
Прытулкі – бяздомным  зімоўе,
І зборы харчоў для нябогаў.
Свабода дае багацеям
Быць эксплуататарскім класам,
Заўсёды ў жыцці мець надзею,
Што будуць мець грошы і касу.
Свабода дала ім урады
Якія бароняць багатых,
Паліцыю з войскам, з уладай,
Са зброяй  турэмныя краты.

# ЛЮДЗІ, ЗНАНЫЯ Ў ГІСТОРЫІ

## СТЭФАН БАТОРЫ

Як з Польшчы ўцёк кароль Валезы,
То друг султана, князь вугорскі,
Пры гуках зброі і жалеза,
Стаў каралём літоўска-польскім.
Ён гаварыў лацінскай мовай,
Прыхільнікам быў езуітаў,
Калегіі ўсе паступова
Перадаваў у іх арбіту.
І праваслаўныя святыні
Ім часта аддаваў у рукі,
І ў ліпкае іх павуцінне
Ішлі дазволы да навукі.
У замку жыў ён у Гародні,
Прымаў паслоў там вельмі знаных,
Для езуітаў быў выгодным
Слугой і сябрам Ватыкана.
Таму вайну пачаў з Расеяй.
Спаліў ён Полацк. Плач і мукі
Прынёс пасля ён з ядам змея,
Таксама і Вялікім Лукам.
Пскоў адбіваў яго ўсе ўдары
І вытрымаў яго асаду,
Прымусіў, каб у кулуарах
Мір падпісаў ён і спагаду.
Ён за намовай езуітаў
Вайну гатовіў зноў удала,
Ды смерць з'явілася з візітам,
Жыццё раптоўна адабрала.

**АТЫЛА Ў МІЛАНЕ**

Біч Божы, валадар усходніх гунаў,
Калісьці захапіўшы ўвесь Мілан,
Быў ашаломлены яго фартунай,
Багаццем у палацах хрысціян.
Аставілі ім рымскія кагорты
Там серабро і ежу заадно.
І гуны кралі, уліваючы ў аорты
Астаўленае рымскае віно.
Там п'яныя хадзілі па палацах,
І напатканых гвалцілі жанчын,
Збіраліся вясёлыя на пляцах
І танцавалі пры кастры ўначы.
І цешыўся са світаю Атыла,
Заўжды насіў са стрэламі калчан,
Чуў, як віно плыло з крывёю ў жылах,
Калі ў палац заходзіў да рымлян.
Пабачыў у палацы ён карціну,
Дзе імператар. сеўшы на свой трон,
Глядзеў на скіфаў головы і спіны,
Якіх забілі ў бітвах наўздагон.
Ён мастака сказаў знайсці адразу,
Як прывялі, то даў яму загад:
,,Рысуй мяне, як гэтую заразу,
На троне царскім між маіх салдат!
Рысуй з мяшкамі з золатам вяльможаў
Ды імператара з карціны і з мяшком,
Як сыплюць золата пад трон мне на падножак,
І як мне боты ліжуць навакол ".

# ЭЦЮДЫ ПАДАРОЖЖА

## ГАРОДНЯ

Не раз лёс мяне закідаў у Гародню,
Старую сталіцу славянскіх князёў,
Дзе вораг яе замяняў у паходню,
Прыходзіў з дзесяткамі грозных палкоў.
Дзесь з поўдня палілі Гародню татары,
Асаджвалі з захаду зноў крыжакі,
А з поўначы шведы ішлі, быццам хмары,
А часам за імі з усходу палкі.
Папала Гародня ў літоўскія рукі
І ёй кіраваў валадар Гедымін,
Давыду дачку сваю выдаў Біруту,
Каб горадам мог кіраваць з ёй адзін.
Давыд Гарадзенскі там быў каштэлянам
І біў там папістаў над Нёмнам-ракой.
Князь Вітаўт паставіў у горалзе замак,
Які бараніў яго ад крыжакоў.
Для Вітаўта стала Гародня сталіцай
Другою пасля ўжо кейстутавых Трок,
Касцёлы і цэрквы, дамы, камяніцы
Раслі наўкол замка, як пекны садок.
Пасля ў ёй праходзілі польскія сеймы,
На іх выступалі заўжды каралі.
Пазней прыйшлі ворагі два напярэймы,
Надоўга адзін яе закабаліў.
За вольнасць там многа герояў загіне,
Як згінуў каліcь Каліноўскі Кастусь.
Гародня цяпер жыве ў роднай краіне,
І гэтай краінаю ёсць Беларусь.

## ВІЦЕБСК

Княгіня вялікая Вольга ля Віцьбы пагост
Паставіць паблізу прытоку ў Дзвіну загадала,
І крэпасць, і горад паўсталі паблізу напрост,
І з Віцьбаю назву ўжо новае княства звязала.
Альгерд, князь літоўскі, тут жонку Марыю знайшоў,
Ды перад іх шлюбам яго святары ахрысцілі,
У Віцебску жыў з ёй і княжыў там многа гадоў,
Яна там яму пяць вядомых сыноў нарадзіла.

Пасля езуіты з'явіліся, як саранча,
Змушалі ўсіх сілаю верыць у рымскага папу,
Ганілі народ і знайшлі там свайго лаўкача
Кунцэвіча, злога, як дзесьці на ўсходзе сатрапу.
За здзекі свае паплаціўся ён хутка жыццём,
За гэта адпомсціў каварны кароль гараджанам,
Шалеў кат, у помсце ён страціў зусім пачуццё:
Дзесяткі галоў па загаду адсёк без пашаны.

У Рыме зрабілі Кунцэвіча потым святым,
Хоць згінуў у Віцебску толькі за хамскія здзекі.
І паляць яму у касцёлах на свечках кнаты,
І просяць яго, каб памог ім у час небяспекі.
Кароль за забойства адняў гарадскія правы,
Якія атрымаў зноў горад праз больш, як чвэрць веку,
Ды дух праваслаўя не згінуў, заўжды быў жывы,
Аслабілі толькі яго езуіцкія здзекі.

Пасля адрадзіўся, як уніі гінуць сляды,
А з ім і ўвесь горад, пакуль не прыйшлі камуністы,
Ды войны прынеслі для Віцебска многа бяды.
Разбураны Віцебск аставілі людзям фашысты.
Пасля ў Беларусі ўвесь Віцебск прыгожа расцвіў,
Ізноў адрадзіліся цэрквы, музеі, заводы,
А злыя ўспаміны схавалі глыбока ў архіў
І ў кнігах апішуць з былога жыцця эпізоды.

**МІРСКІ ЗАМАК**

Затрымаўся аўтобус турыстычны
Прад пекным замкам з вежаю і брамай,
І кожны апарат фатаграфічны
Цікавіўся тут мірскай панарамай.
Экскурсавод нам расказаў падзеі,
Якія Мір пражыў за сем стагоддзяў,
Напады крыжакоў і юбілеі,
Пражытыя ў іх даўнім асяроддзі.
Навокал пасяліў кароль татараў,
Якія мелі бараніць пасёлак,
Ды ад крыжацкіх і другіх пажараў
Начамі ззяў усюды ярка золак.
Таму паставіў князь Ільінскі замак
З байніцамі ў сцяне і ў кожнай вежы,
І вежу з амбразурамі над брамай,
З прыгожым уваходам для картэжаў.
Ды князь Ільінскі цешыўся нядоўга,
Бо смерць яго забрала да магілы,
І замак перайшоў тады надоўга
Да князя іншага, да Радзівіла.
Ён рэнесансавы палац на пляцы
Узвёў у замку для сваіх патомных,
І бавілася шляхта ў тым палацы,
У залах камфартабельных прыёмных.
І хоць разграбілі палац той шведы
Ім памаглі расійскія салдаты,
Хоць нішчылі яго вайны злыбеды,
Ён захапляе дойлідствам магнатаў.

**БАХЧЫСАРАЙСКІ ПАЛАЦ**

У даліне між гор і цюльпанаў,
Дзе цвітуць агароды, сады,
Збудавалі сталіцу для хана
Залатой і татарскай арды.
Называецца Бахчысараем,
Там стаяць мінарэты, палац,
У палацы хан жыў, як у раю,
Меў гарэм, быў там еўнух, паяц.
Меў наложніц ён многа ў гарэме,
Пільнавалі іх еўнухаў двух,
Хан хадзіў у чалме, а не ў шлеме
Між наложніц, як певень і зух.
Быў палац той прасторны, высокі,
У палацу таксама быў сад.
Апельсіны ў ім цешылі вока,
Цёмна-сіні наўкол вінаград.
А за садам малыя вароты
Адкрываў для наложніц іх хан,
Выбіраў з іх адну для пяшчоты,
Забіраў у пакой на тапчан.
Двор вялікі быў сонцам заліты,
Ззяў там радугай дзіўны фантан:
Выплывалі струмені з граніта
І тварылі з іх кветкавы зман.
Я калісь меў пабачыць мажлівасць,
Дзе татарскі хан меў калісь рай,
Пагуляў па палацу шчаслівы,
Агледзеўшы ўвесь Бахчысарай.

**МАМАЯ**

Не раз на курорце ў Мамаі
Быў летам я, нават вясной,
Румынскія еў караваі,
Купаўся і піў іх віно.
Гасцініцу знаў ,,Унірэю",
Бо тыдзень гасціў там з сям'ёй,
Глядзеў у Канстанцы музеі,
І слухаў марскіх хваль прыбой.
Там помню, як чэхі, славакі
Спявалі пад нашым акном,
Бо Дубчак свабоды прысмакі
Падаў ім, як п'яніцы ром.
Не ведалі, што ўжо на ўсходзе
Рыхтуюць атаку на іх,
Нам ноччу пры добрай пагодзе
Бянтэжылі песнямі слых.
На доўгім шырокім там пляжы
Быў дробны ды сыпкі пясок,
Як вецер дзмуў з мора, як сажа,
Ён сыпаў, заклейваў мне зрок.
Цягнулася доўга ўглыб мора
Там плыткая вельмі вада,
Далей у бязмежнай прасторы
Гайдалася хваль чарада.
Высокія ў спёку гатэлі
Турыстам давалі ўсім цень,
Яны ў дождж на неба глядзелі,
Чакалі на сонца прамень.

**ЗАЛАТЫЯ ПЯСКІ**

Я сёння у сне нечакана
Пабачыў зноў бераг марскі,
Гасцініцу побач „Хавану”,
Курорт „Залатыя Пяскі”.
        Прывезлі туды нас з Мамаі
        Аўтобусам з групай людзей,
        Пачуліся мы, як у раю
        На пляжы і ў цёплай вадзе.
Калі я прачнуўся, прыпомніў
Мае маладыя гады,
Калі чорнаморскія промні
Свае астаўлялі сляды.
        Як плаваў тады ў яго хвалях,
        Як ззяў залацісты пясок,
        А ў кветкавых пекных каралях
        Іскрыўся наверху лужок.
Прыпомніў цыганскі там табар,
У парку малы рэстаран,
Дзе конік маленькі, як сябар,
Заглядваў у мой чамадан.
        Я з жонкай паехаў у Варну,
        Заходзіў у пекны сабор,
        Туды, дзе Варнэньчык каварна
        Загінуў, вазіў нас шафёр.
Там помню, як чэхаў, славакаў
Вайной напужалі тады,
Даведаліся аб атаках
Яны на свае гарады.

**НЕСЕБЕР**

Вось сонца вылецела ўгору,
Як залацісты дырыжабль,
Бачу паўвостраў побач мора,
Архітэктурны ў ім ансамбль
Старэнькі гарадок Еўропы,
Бо помніць ён чацвёрты век,
Турэцкія пражыў захопы
І янычарскі страшны здзек.
Вось бачу крэпасці руіны,
Якую знішчыў янычар,
З турэцкай лазняй, быццам кпінай,
У ёй купаўся іх змагар.
Турэцкі бункер з амбразурай,
Стаіць ля мора, пры вадзе
І помнікі архітэктуры
Якіх не ўбачыце нідзе.
Сем цэркваў аглядзеў прыгожых,
З палітрай іх цагляных сцен,
Мой цешыў зрок і ўсіх прахожых
У сонечны чароўны дзень.
Усе драўляныя будынкі
Цудоўна выглядзяць наўкол,
Як каляровыя карцінкі.
Над імі ззяе арэол.
А Бераг Сонечны ля мора
Паказвае нам светлы пляж,
І чарнаморская прастора
Блішчыць, як радужны міраж.

**ГАРА ВІТОША**

Калісь зімой я па Сафіі
Гуляў ды спаглядаў з раскошай,
Як зверху ў радужнай стыхіі
Заве мяне гара Вітоша.
І вось падвеснаю чыгункай,
Закрытым і малым вагонам,
Паехаў я ў яе кірунку,
Паплыў угору, як паромам.
Глядзеў я зверху цэраз вокны,
На скалы белыя ўсе ў снегу,
Між буйных дрэў на ўсе валокны
Трас лыжных з лыжнікамі ў бегу.
Хоць холадна было навокал
Блукаў я сам і без апекі,
Аглядваў здзіўлены, як сокал.
Каменныя між лесу рэкі.
Як з лыжнай станцыі „Алека”,
Дзесяткі лыжнікаў з’язджала,
І ў лесе бачыў лесасека,
Шукаў ён хворых дрэў там дбала.
Дайшоў я сам на верхавіну,
Якую „Чырні Ўрых” назвалі,
Гару пад вечар я пакінуў,
Вагонам, з’ехаўшым па сталі.
Віном балгарскім у гатэлі
Сагрэўся я пасля Вітошы,
І добра спаў пасля ў пасцелі,
Мне сніўся луг і пах пакошы.

## АСТРОГ У ЧАРНАГОРЫІ

Чаргой паціху праз уздымы,
Пад небам, дзе жыве сам Бог,
Ідуць да храмаў пілігрымы,
У Чарнагорыіі ў Астрог.
    Калісь святы Васіль Астрожскі
    Там збудаваў свой манастыр,
    Царкву Ўвядзенскую і жорсткі
    Пражыў там час, як багатыр.
З турэцкаю тады няволяй,
Бароўся сербскі ўвесь народ,
Цярпелі зверствы іх з нядоляй
Яны тады праз сотні год.
    Скрывалі чарнагорцаў горы
    Ад янычарскіх страшных здзек,
    Скідалі там няволі шоры,
    Яны між скал і горных рэк.
Святы Васіль стварыў, як зодчы
Сваю царкву і манастыр,
Цяпер ляжаць яго ў ім мошчы
Каўчэг іх ззяе, як сапфір.
    Царква другая ёсць паблізу,
    Яго ікона на скале,
    Яго стары падсвечнік знізу
    Стаіць ля кніжкі на стале.
І штодзень сотні пілігрымаў
Ідуць з малітвай да яго,
З Падгорыцы пяшком па ўздымах,
Зімою нават між снягоў,

## МОСТАР У БОСНІІ І ГЕРЦАГАВІНЕ

З Сараева калісьці проста
У студзенскі халодны ранак
Прыехаў раз я ў горад Мостар
На гарадскі яго прыстанак.
  Раней ад снегу па калені
  Дамы бялелі і пейзажы,
  У Мостары я нават ценю
  Яго не мог нідзе заўважыць.
Мне сонца яркія прамені,
Як факел, сыпала на грудзі,
Хадзілі ў летнім там адзенні
Па горадзе навокал людзі.
  І я пайшоў пабачыць Мостар,
  Падзелены ракой Нярэтвай,
  Прайшоў праз дзень дзесяткі вёрстаў,
  Між мусульманскіх мінарэтаў.
,,Стары мост”, быццам бы дзве сферы
Злучае над ракой наўкола,
,,Хелебію” і вежу ,,Тэру”,
І мінарэты і касцёлы.
  Знайшоў ,,Куюндзюк”, дзіўны рынак,
  З турэцкім вычварным таварам,.
  Металу многа, розных скрынак,
  Жанчыну з рускім самаварам.
,,Крывы мост”, выкананы з дрэва,
Прайшоў, унізе рос дзядоўнік,
Паслухаў з мінарэтаў спевы...
Пасля паехаў я ў Дуброўнік.

## ТУЗЛА Ў БОСНІІ

Калісь я ў Тузлі праз паўгода
Пражыў сам у гатэлі „Брысталь”,
Як панавала ў Босні згода
Між ісламістам і марксістам.
Былі адкрытыя мячэці
З прыгожаю царквой, касцёлам,
Вучыліся сумесна дзеці
Басанцаў, сербаў мірна ў школах.
Там дабывалі соль і вугаль,
Электрастанцыя паўстала,
Глядзеў як цэлая акруга
З маразму хутка аджывала.
Навокал страшныя кантрасты
Мяне здзівілі напачатак:
Стаялі пры палацах часта
Кварталы бедных курных хатак.
Пры хатках тых у сінім дыме
Купаліся аўтамабілі,
Басанкі з вёсак у рэжыме
Калашыны з спадніц рабілі.
Харватак бачыў у касцёле
У белых, быццам снег, сукенках.
Бялелі дзеці іх і ў школе
І беллю ззялі іх паненкі.
Заўсёды за басанцам ззаду
Магла ісці з паклажай жонка,
Бо муж над жонкай меў уладу,
За ім хадзіла без гамонкі.

## КРАГУЕВАЦ У СЕРБІІ

Калісь, калі выйшаў з насілляў крывавых,
Турэцкай няволі тут сербскі народ,
Шумадыя стала іх першай дзяржавай,
Сталіцай быў Крагуевац яе многа год.
І князем яе быў Мілош Абрэновіч,
Ён сербскія школы стварыў і тэатр,
А горад стаў цэнтрам пасля прамысловым,
Як сербскай сталіцай зрабілі Бялград.
Нанеслі аднак потым гораду войны
Вялінія раны і безіч ахвяр,
Ляцелі снарады з гармат дальнабойных,
І нішчыў навокал будынкі пажар.
А вермахт для помсты за згінуўшых фрыцаў
Забіў тут сем тысяч нявінных людзей,
Выцягвалі хворых з дамоў і з бальніцы,
Стралялі яны і ў жанчын, і дзяцей.
Як помнікі зверстваў ляжаць іх магілы,
Аб варварстве немцаў гаворыць музей,
Успамінаюць у кнігах чарнілы,
Каб нам не забыць гэтых дзікіх падзей.
І горад ажыў, бо ўжо бачу па тварах,
Што моладзь не чуе ўсіх жахаў вайны,
Спяваюць і граюць яны на гітарах,
Пад вечар гучаць у царкве дзесь званы.
Па горадзе ездзяць усюды ,,Заставы”,
Бо іх выпускае іх аўтазавод,
І многа ў машынах дзяўчын кучаравых.
Заможна, я бачу, жыве тут народ.

**ВАЕННА-ГРУЗІНСКАЯ ДАРОГА**

Калісь ад Мцхеты па Каўказе
Праехаў я ў Ўладзікаўказ,
Там, як на казачным абразе
Віды змяняліся штораз.
Ля Мцхеты бачыў крэпасць Джвары
Ля рэк Арагвы і Куры,
Яна была, як па пажары,
Стаяла сумна на гары.
Царква была тады пустая
І без дзвярэй і без акон,
Святыня ў Грузіі святая
Была без крыжа і ікон.
Паблізу вёскі Анануры
Стаяў зноў замкавы ансамбль,
У сонцы з выглядам панурым
Глядзеў, як змучаны араб.
У крэпасці на сценах храма
Фрагменты фрэсак унутры,
Былі савецкаю рэкламай
Адносін да святынь старых.
У храме брудныя ўсе сцены,
На фрэсках подпісы падлюг,
А побач шрамы ад палена,
Баразны, быццам ездзіў струг.
Далей Гадаурская прорва,
Спуск да Арагвы з вышыні.
Унізе ззяла ў яркіх барвах
Даліна з фруктамі ў цяні.
І вадасховішча, як люстра
Пасля Крыжовы перавал
Арагва ўнізе, як на муштры,
Кідала пены белы вал.

Стаяў на белым пастаменце
З прутоў жалезных чорны крыж.
І вось на гэтым мануменце
Сеў, прывітаў нас чорны стрыж.
Старыя вежы ля дорогі
Напаміналі аб бядзе,
Агнём на іх давалі строгі
Сігнал, што вораг дзесь ідзе.
Аазіс потым бачу ў скалах,
Завуць яго Сіянскі гай,
Прыгожых кветак там нямала,
Між снежных скал зялёны рай
Унізе Церак, быццам стужка
Цямнеў у зяпе дзікіх скал,
Яго праскочыць толькі птушка,
У ім звер згіне напавал.
За Цеpакам руіны вежы,
Тамары Замак там стаяў,
Рака там голасам мядзведжым
Раве і ўецца, як удаў.
Далей Дар'яльская цясніна,
Відаць умацавальны пост,
Унізе Церак і даліна,
Тунэль і цэраз рэчку мост.
Пасля над горамі бялела
Вяршыня цудная Казбек,
Ад сонца свечкаю гарэла,
Каб захапляўся чалавек.
Зеўс прыкаваў там Праметэя,
Бо людзям ён агонь аддаў,
Паводле грэцкай эпапеі
Арол яго ўвесь час кляваў.

Пасля ,,Ермолаўскі" быў камень,
Гранітны ледавік-валун,
Як межавы ён слуп пры браме
Стаяў, як горны апякун.
Мы там не бачылі граніцы,
Савецкай Грузія была,
А ў асяцінскую сталіцу
Прыйшла за намі ўдзень імгла.
Арджанікідзе называлі
Усе тады Уладзікаўказ,
Там мы ў гатэлі начавалі
І сніўся ноччу мне Каўказ.



1987 г. Індыя, Бакара, Д. Шатыловіч у адным пакоі ў трохпакаёвай кватэры, у якой жыў у 1986-1988 гг.

**ДАБРАВЕШЧАНСКІ МАНАСТЫР У СУПРАСЛІ**

У Супраслі Дабравешчанскі манастыр
Стварыў калісь манахам Аляксандр Хадкевіч,
Каб з Гарадка знайшлі там цішыню і мір,
У пушчы Блудаўскай, дзе ім шумелі дрэвы.
    Ён збудаваў ім мураваную царкву,
    І сцены крэпасці наўкол для абароны.
    І з Кіева мітрапаліт з'явіўся наяву,
    Ён высвяціў ім манастыр і падарыў ікону.
Хацеў Хадкевіч, каб ля Польшчы манастыр
Стаў абаронцам і фарпостам праваслаўя,
Яму ён вёскі аддаваў у сувенір,
Для праваслаўных дамагаўся раўнапраўя.
    Іконапісцы ў Супрасль з Сербіі прыйшлі
    На сценах храма паявіліся іх фрэскі,
    Якімі захапляліся там каралі,
    І вось разбурылі ў вайну іх немцы зверскі.
Бібліятэка манастырская тады
Багатая была шэдэўрамі навукі –
Ад рукапісаў, створаных у даўнія гады,
Да розных летапісаў, пісаных кніг друкам.
    Гібець стаў манастыр пад нацыскам улад,
    Калі яго забралі сілай уніяты,
    Пасля католікам аддаў іх польскі ўрад,
    Разбурылі яго нямецкія салдаты.
Зноў адрадзіўся ён, як Фенікс з хваль агню,
Бо стаў манастыром бясспрэчна праваслаўным.
Цвіце, расце шчасліва ўздоўж і ўвышыню
Царкоўны помнік лёсаў і падзей дзяржаўных.

## ПЛІТВІЦКІЯ АЗЁРЫ

Ці помніш гатэль, захапленне з балкона,
Калі пасля ночы глянулі мы ранкам
На колеры дзіўныя, як на іконах,
Азёраў цудоўных за белай фіранкай ?
Вада ўся ў абдымках лугоў, поўных кветак
Іскрылася радугай колераў дзіўных,
Меў іншыя колеры кожны палетак,
Ад яркіх, жывых да ў імгле рэфлексіўных.
Паблізу атэля быў лес дрэў зялёных,
Глядзелі яны на балкон, на азёры.
У сонечным бляску дрэў сінія кроны
За імі абселі высокія горы.
Як з'елі мы снеданне ў нашым гатэлі,
Пайшлі аглядаць мы азёры паблізу,
Віталі ў кустах нас з лістоты кудзелі
На ўзгорках ад верху да самага нізу.
Віталі азёр ізумрудныя воды,
Смарагдавым бляскам дрыжэлі іх хвалі
На беразе кветкавыя агароды
Навокал паказвалі з кветак каралі.
Вясёлкай віталі нас часта фантаны,
Якія са скал выляталі ў паветра,
Плюмажам свяцілі яны маляваным,
Як іскры скакалі яны ў згодзе з ветрам.
Углыб запрашалі ўвайсці нас пячоры,
Якія віталі між лісця і кветак...
Ды трэба было нам ад'ехаць над мора,
Мы з жалем пайшлі да аўтобусных клетак.

## ПАДАРОЖЖА З АДЭСЫ Ў ЯЛТУ

Плывем з табой на караблі
З Адэсы ў Крым да самай Ялты,
Даўно мы морам не плылі,
Нас хвалі страшаць не на жарты.
Наш карабель плыве адзін
Па Чорным моры, як лупіна,
Жаўцее ў сонцы, як бурштын,
Гайдаецца ён, што хвіліна.
Вада пад намі, як дыван
Блішчыць і моршчыцца навокал,
Здаецца, гэта акіян
Забраў у бездань нас далёка.
Ды вось галосны мегафон
Усіх завеісці ў каюты,
Бо бура грозная ў абгон
Бяжыць за намі з крыкам лютым.
І ўжо ў каюце мы хутчэй
Прывязваемся да пасцелі.
Буяняць хвалі, як кашчэй,
Зрабілі з карабля качэлі.
Сарвала лямпу са стала
І кінула нам на падлогу...
Заціхла ранкам і імгла
Схавалася дзесь у бярлогу,
І паказаўся раптам Крым
Скалісты бераг за вадою,
На ім як беленькі кілім
Палацы ззялі чарадою.

## КАЛЕМЕГДАН  У БЯЛГРАДЗЕ

Стаім на гары і глядзім, як унізе
Шырокая Сава бяжыць у Дунай,
І нехта плыве па ёй, быццам на крызе,
Арэ ваду лодкай, як глебу ратай.
    Каменная крэпасць за тоўстай сцяною
    Яшчэ добра  помніць далёкіх рымлян,
    Пасля візантыйцы  жылі над ракою,
    Пакуль не з’явіўся тут гунскі каган.
Валодалі крэпасцю нейкі час венгры,
Кароль Бэлла сербам яе падарыў,
Нядоўга аднак кіравалі ёй сербы,
Бо крэпасць турэцкі султан захапіў.
    Вякі тры ён сербаў трымаў у няволі,
    Аж мусіў ім  з крэпасці выдаць ключы,
    І стала змяняцца яна ў іх паволі
    У парк, дзе лятаюць між дрэваў драчы.
Сцягнулі ў парк сербы з баёў экспанаты,
Стварылі пад небам ваенны музей,
Мы бачым тут танкі, танкеткі, гарматы,
Як бавіцца многа між імі дзяцей.
    І бачым на слупе здалёк ,,пераможцу”,
    Трымае ён сокала ў левай руцэ,
    А ў правай меч востры, як у запарожца,
    Выглядвае  ворага  дзесь на рацэ.
Высока стаяць назіральныя  вежы,
Пакуль толькі сочаць наверсе нас дзве...
Спакойна паказвае твар свой мядзвежы
,,Вушаты слуп джока” на сочнай траве.

**ДУБАЙ**

Калісь маленькая мясціна,
Дзе жэмчуг быў, як каравай,
Багатай нафтаю краінай
Цяпер з'яўляецца Дубай.
    Стаяць тут дзіўныя гатэлі,
    Для горналыжнікаў курорт,
    Метро, фантана, каруселі
    І не адзін аэрапорт.
Чаруе тут вышэйшы ў свеце,
Бліскучы, востры небаскроб,
Як сталагміт на сонцы свеціць,
Паказвае ўсім ён свой апломб.
    Наверх там ліфты скачуць хутка,
    З яго Індыйскі акіян
    Пабачыць можна і закутак,
    Дзе плыў калісьці Магелан.
З яго відаць, як на далоні
Персідскі радужны заліў,
Яго шырокае бяздонне,
За ім арабскі зноў масіў.
    Я два разы быў у Дубаі,
    Пазнаў адзін аэрадром,
    Пабачыў толькі небаскраі,
    Як абышоў яго пяшком.
Там у багатых магазінах
Я доўга аглядаў тавар,
А сонца, як агонь з каміна,
Мне ззяла з неба проста ў твар.

## КАЛІСЬЦІ СТУДЭНТАМ БЫЎ...

Калісьці студэнтам быў я ў Ленінградзе,
Ён Санкт-Пецярбургам завецца цяпер,
Пазнаў там савецкае адзінаўладдзе,
І горад пакінуў я, як інжынер.
    Хаця кіраваў там тады ўсёй дзяржавай
    Бязлітасны, страшны, крывавы сатрап,
    Мяне не пужала яго слуг арава,
    Бо хутка прывык я да крыкаў з іх зяп.
Там многа пазнаў я сяброў і сябровак,
З якімі праводзіў я ночы і дні,
Заўжды ў інстытуце меў туш і аловак
І мог запісаць таямніц карані.
    Хоць горад раней перажыў жах блакады,
    Не вылечыў добра нанесеных ран,
    Вялікай спагады не меў ад улады,
    Далёка аднак ад яго быў тыран.
Таму вельмі моцна ставаў ён на ногі,
Жыў бедна ды голад не мучыў яго.
Заходзіў не раз я ў чужыя парогі
І часта я піў там чырвоны кагор.
    Хадзіў я з сяброўкамі часта ў музеі.
    Пазнаў Эрмітаж там, тэатры, кіно,
    Пабачыў вакзалы, ўсе цэрквы, алеі,
    Глядзеў на будынках карціны, пано.
Пражыў там пяць год я з прыемнай пашанай.
Пакуль не атрымаў жаданы дыплом,
І там дачакаўся я смерці тырана,
Якая тады загучала, як гром.



1987 г. Індыя. Дачка Д. Шатыловіча, Ірэна ў храме джайнаў
у Малубане ля гары Парашнат.

# ЗМЕСТ

## РЭХА З ЧАРОМХІ



## ЦУДЫ ПРЫРОДЫ

## ЮБІЛЕЙНЫЯ ВІНШАВАННІ



## РАЗВАЖАННІ



## СЛЯДЫ МІНУЛАГА

## ЗАГАНЫ ЖЫЦЦЯ



## ЛЮДЗІ, ЗНАНЫЯ Ў ГІСТОРЫІ



## ЭЦЮДЫ ПАДАРОЖЖА



1988 г Індыя. Д.Шатыловіч пры спажывецкім кіёску
пры дарозе з Бакара ў Раньчы.



1987 г. Індыя,  Д. Шатыловіч ля храма  джайнаў у Малубане.

